# Сельска-гаспадарчая часопісь „Плуг“.

*Выходзіць штомесячна з 1-га студзеня 1925 году.*

## Выданьне Народнага Комісарыяту Земляробства Беларусі.

Часопісь ставіць сваёй мэтай у навукова-популярнай форме пашыраць сельска-гаспадарчыя веды і знаёміць наша передавое сялянства з працамі і дасягненьнямі дасьледчых станцый, лепшых гаспадароў-практыкаў і агрономічнай навукі. Часопісь лічыць патрэбным знаёміць беларускіх гаспадароў з тымі спосабамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі бяз значных грашовых сродкаў можна павялічыць яе прыбытак. *Лепшыя тэхнічныя прыёмы выраблeньня поля, скарыстаньне мясцовых сродкаў угнаеньня, пашырэньне засеву лубіну, лёну бульбы і кармовых расьлін могуць шмат чым дапамагаць нашаму селяніну.*

Другое—*багаты сялянскі вопыт* могуць выкарыстаць паасобныя гаспадары толькі ў тым выпадку, калі ён будзе сабраны і паказаны на старонках с.-г. кнігі ці часопісі.

Разам з усім гэтым мы бачым шырокую перабудову нашай сельскай гаспадаркі на больш даходны лад: будуецца Новая вёска, ствараецца новы быт і лепшыя ўмовы працы. Узрастае сялянская самадзейнасьць і шырыцца ўплыў коопэрацыі на сельскую гаспадарку. Усе гэтыя зародкі соцыялістычнай гаспадаркі знаходзяць ці павінны знаходзіць высьвятленьне на старонках часопісі „ПЛУГ“.

Часопісь можа быць карыснай перадавому сялянству, хатам-чытальням, с.-г. гуртком, вясковым школам і настаўнікам, організацыям ЛКСМ, зямельным, агрономічным і коопэрацыйным працаўнікам раёну, рабочым саўхозаў, с.-г. арцелям, комунам і г. д.

У кожным нумары зьмяшчаецца больш 20 практычных артыкулаў.

Матэрыялы гаспадароў-практыкаў, вучастковых агрономаў і ўсіх мясцовых працаўнікоў зьмяшчаюцца ў першую чаргу.

*Супрацоўніцтва платнае.*

**Падпісная плата на 1925 г.**

На год—**3 р.**; 6 месяцаў—**1 р. 70 кап.**; 3 месяцы—**90 кап.**

Кошт асобнага нумару—**30 кап.**

Адрас Рэдакцыі: **Менск, Савецкая 71, НКЗ Беларусі.**

1-я Дзяр. друк.—лік 3.000 экз. Зак. № 3407. Галоўлітбел № 9889.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 5. Травень 1925 г. № 5.

## Што трэба ведаць селяніну.

Калі сялянская гаспадарка будзе паляпшацца толькі ўласнымі сіламі гаспадара, то пройдзе шмат часу, пакуль яна стане больш-менш даходнай. Калі няма ў гаспадарцы каня, бараны, плуга або калёс і калі звароты яе малыя, то гаспадар ня скора выб'ецца з нястачы, ня скора яго праца будзе аплачвацца так, як гэта належыць.

І гэта затым, што сялянская гаспадарка павінна быць моцна зьвязана з рынкам (купля і продаж), мець крэдыт (розныя пазычкі) і перараблять свае продукты ў больш дарагія. Толькі ў такім выпадку гаспадарка будзе мацнець, станавіцца даходнаю і шырэй здавальняць патрэбы гаспадара-селяніна.

Савецкая Дзяржава прымае рашучыя крокі да ўзмацненьня і разьвіцьця сялянскай гаспадаркі. На ўсіх Зьездах Саветаў (VII Ўсебеларускі, III Саюзны) і XIV Партконфэрэнцыі пытаньні сельскай гаспадаркі, яе ўзрост і разьвіццё і наогул *гаспадарчая перабудова вёскі* займала першае і выключнае месца.

III Саюзны Зьезд Саветаў зазначыў, што патрэбны рашучыя крокі дзеля набыцьця маламоцным гаспадаркам у першую чаргу коняй, плугоў і самых неабходных машын. Ня больш, як праз 5 год усе гаспадаркі павінны быць забясьпечаны коньмі, с-г. машынамі і прыладамі. Дзеля гэтага павялічваецца лік дзяржаўных выхавальнікаў коняй, на заводах пашыраецца выраб с.-г. машын, плугоў, барон і г. д. пры значным зьніжэньні на іх цэн.

Дзеля набыцьця сельскімі гаспадаркамі неабходных машын і прылад, на пабудову хат і іншай будоўлі на новых сялібах працягваецца дадаткова дзяржаўны крэдыт у 6 міліёнаў руб. Усе-ж землябудаўнічыя працы дзеля сялянскай беднаты павінны спаўняцца за кошт дзяржавы; дзеля чаго на гэты год вызначаецца яшчэ сума ў 3 міліёны р.

Вялікае значэньне надае VII Ўсебеларускі Зьезд Саветаў надзяленьню маламоцнага і безьзямельнага сялянства зямлёю; дзеля гэтага будуць скарыстаны лясныя фонды, фонды дзяржаўнай маемасьці і землі ад абрэзкі непрацоўных гаспадарак.

Апрача таго, у наступным годзе зьмяншаецца с.-г. падатак на 100 міліёнаў руб. і, падругое, на мясцовыя патрэбы (больніцы, школы, пабудова мастоў і г. д.) з агульнага падатку вызначаецца 100 міліёнаў руб. (у 1924-25 г. было 45 міл. руб.).

Такім чынам, толькі земляўпарадкаваная і ўсебакова адбудованая гаспадарка зможа шпарка павялічаць сваю вытворчасьць і выкідваць на загранічны рынак лён, сьвініну, масла, мяса, яйкі, птушку і г. д. Усё гэта можа даваць сельская гаспадарка Беларусі.

III Зьезд Саветаў зьвярнуў увагу і на ўзмацненьне працы с.-г. копэрацыі. І гэта зусім зразумела, бо яна арганізуе пераробку продуктаў

сельскай гаспадаркі і выкідвае іх на свой ці заграңічны рынак па большай цане (масла, сыр, вандліна, каўбасы і г. д.).

Коопэрацыя ў поўнай меры скарыстоўвае сялянскую самадзейнасьць, іх дробныя сродкі, сялянскі вопыт і ўсе культурныя дасягненьні паасобных гаспадароў-сялян. Вытворчая с.-г. коопэрацыя разам з крэдытовай адыграюць вялікую ролю ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі.

Вялікую ўвагу зьвярнуў III Зьезд Саветаў і на тэхнічнае разьвіцьцё сялянскай гаспадаркі, гэта знача на пашырэньне лепшых спосабаў гаспадараваньня, карыстаньне машынамі, засеў кармовых траў, тэхнічных культур і г. д. Усё гэта вымагае да селяніна і большай сьвядомасьці, бо цемра можа доўга трымаць яго на адным месцы, чаму новага ў сваёй гаспадарцы ён зробіць мала.

VII Усебеларускі Зьезд прапануе пашырыць агрономічную працу сярод сялянства шляхам павялічэньня агрономічных сіл па раёнам. Агроном у першую чаргу павінен працаваць сярод сялян і непасрэдна над іх гаспадаркай. Шмат-жа якія с.-г. коопэратывы, арцелі, комуны ўжо маюць і могуць мець сваіх агрономаў і тым шырэй выяўляць свой культурны ўплыў. На разьвіцьцё колектыўных гаспадарак, гэтых першых адзінак соцыялістычнага гаспадарваньня, Зьезд гэтак-жа зьвяртае ўвагу.

Акром таго, на Беларусі, дзе сельская гаспадарка налічвае больш тысячы год, знаходзіцца шмат культурных *сялянскіх гаспадарак*, якія ўжо могуць быць прыкладам дзеля другіх (шматпольле, тэхнічныя расьліны, кармовыя травы, угнаеньне лубінам, або продукцыйная жывёла і г. д.). Шматгадовы вопыт гэтых гаспадарак будзе скарыстаны. Цяпер яны рэгіструюцца і вызначаюцца іх правы і абавязкі.

Такім чынам, адбудова сельскай гаспадаркі становіцца першачарговай задачай Савецкай улады. Мы прышлі да таго моманту, калі ў нашай гаспадарцы павінна адбыцца *тэхнічная рэволюцыя*, каб новымі спосабамі гаспадарваньня павялічыць с.-г. вытворчасьць і дабрабыт селяніна.

Багацьце сялянскай гаспадаркі—гэта моц усіх працоўных Савецкага Саюзу.

**С. Тупяневіч.**



# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Торф, як угнаеньне.

На Беларусі гаспадары маюць адно ўгнаеньне, якое па сваёй моцы мала розьніцца ад гною, а іншы раз яно больш танна і спадручна. Угнаеньне гэта—торф. Торф здабываюць дзеля апалу. Верхні пласт торфу, які на апал ня йдзе надта добры дзеля падсьцілу скаціны. Торф-жа зямлісты, які склаўся з розных перагніўшых траў і ў якім многа зямлістых частак, таксама на апал ня йдзе; але яго ўжываюць, як угнаеньне.

Гнаіць поле можна толькі такім зямлістым торфам, які праляжаў на паветры ня менш году. Дзеля чаго яго капаюць і складаюць у кучы аршыны два шырыні і вышыні. Найлепш торф складаць у кучы з восені і так пакінуць на зіму, каб даць яму прамерзнуць. Справа ў тым, што сьвежакопаны торф мае ў сабе некаторыя шкадлівыя для расьлін матэрыі. Калі-ж ён прамерзьне ў кучах, то робіцца пульхным; у яго праходзіць паветра, а вясною і летам праз кучы праходзіць яшчэ талая і дажджавая вада. Дзякуючы гэтаму шкадлівыя матэрыі (кіслоты) зьнікаюць.

Вельмі добра падмешваць да торфу вапну.

Гэтак-жа добрае ўгнаеньне дае тарфяна-гнаёвы кампост. Робяць яго такім чынам: кладзецца пласт торфу таўшчынёю ў 3-4 вяршкі, шырынёю каля 3-х арш. і даўжынёю ў 6-7 арш. Па торфу кладуць пласт гною гэткай-жа таўшчыні, затым зноў торф. Так робяць да таго часу, пакуль куча вырасьце у $1^1/_2$-2 арш. вышыні. Верхнім пластам абавязкова павінен быць торф. Цераз 6 месяцаў кучу трэба перамяшаць так, каб з-пад нізу пласты вывернуць наверх, а верхнія ўніз, а торф з гноем *роўнамерна* зьмяшаць. Пасьля гэтага перамешваньня куча ляжыць яшчэ месяцаў 6, а далей кампост можна ўжываць, як угнаеньне.

Калі торф прыгатаваны бяз гною, то на дзесяціну яго йдзе каля 4000 пуд. альбо $1^1/_2$ пуд. на кожны кв. саж. Тарфяна-гнаёвага кампосту на 1 дзес. даволі і 2000 пуд.

Каб яшчэ лепш паказаць значэньне торфу, як угнаеньне ў сельскай гаспадарцы, прывяду вынікі некалькіх досьледаў, з якіх можна бачыць, што калі торф ужываецца адзін без падмешваньня іншых матэрыялаў, то мала ўступае гною; торф-жа, які зьмешаны з гноем, іншы раз дае большыя ўраджаі, чым нават гной.

Акром гэтага, зямля, угноеная тарфяна-гнаёвым кампостам, даўжэй захоўвае ўплыў угнаеньня.

Вось ураджаі зімовага жыта, якія былі атрыманы на лёгкім суглінку Горацкай дасьледчай станцыі.

Без угнаеньня з 1 дзесяціны 81 пуд. зярна
Па гнаі з 1 „ 169 „ „
Па торфу з вапнай з 1 „ 128 „ „

Запольскай дасьледчай станцыяй (Ленінградзкае губ. Лускага пав.) на супескавам полі пры ўгнаеньні торфам у ліку 4000 пуд. на дзесяціну, былі атрыманы яшчэ лепшыя вынікі.

Пры ўгнаеньні адным гноем з 1 дзес.—137 пуд. жыта і 127 п. саломы
„ „ „ торфам з 1 „ 166 „ „ 160 „
„ „ торам з гноем з 1 „ 168 „ „ 152 „

На Вяцкай дасьледчай станцыі ўраджаі збожжа пры ўгнаеньні торфам у ліку 4000 пуд. на дзесяціну былі гэткія—

зімавое жыта па торфу з 1 дзес. 160 пуд. зярна.
„ „ без угнаеньня з 1 „ 120 „ „
Авёс пасьля жыта па торфу з 1 „ 108 „ „
„ „ „ без угнаенья з 1 дзес. 95 пуд. зярна.

У той-жа Вяцкай губ. на сялянскіх палёх торф пры глiністай зямлі ў ліку 300 вазов на 1 дзес. даў такія вынікі:

зімовае жыта па торфу з 1 дзес. 102 пуд. зярна;
„ „ без угнаеньня з 1 „ 58 „ „

Маю надзею, што гэтых вынікаў досыць, каб паказаць вясковаму гаспадару вялікае значэньне торфу ў справе павышэньня ўраджаю на спустошаным ад нястачы гною полі.

Торф—гэта адзін з тых сродкаў, аб якім не павінен забываць беларускі селянін, каб выкруціцца з таго кола бядоты, куды загнала яго трохпалёўка.

**(Горкі, С.-Г. І-т).** **Агроном А. Берзін.**

---

# Сялянскі і заняты папар.

Каму невядомы жудасны малюнак сялянскага познага папару?

Усю восень, вясну і амаль палову лета круціцца на ім галодная скаціна, трамбуе і перацірае на попел.

У час такога „адпачынку“ поле перастае жыць; спыняецца жыцьцё і вельмі карысных дзеля глебы бактэрыяў. А гаспадару трэба добра памятаць, што патрэбныя дзеля бактэрыяў і дзеля карэньчыкаў расьлін пажыўныя солі ўтвараюцца ня толькі з гною, але і з дробных кавалачкаў землі. Пад уплывам паветра, вады, зьмен цяплыні і гэтых самых бактэрый кавалачкі зямлі пачынаюць раскладацца і даюць пажыўныя сокі (а яны кормяць і бактэрыяў, і нашы расьліны).

З вялікім напружаньнем узарэ гаспадар свой папар амаль што ў палове ліпеня пановаму стылю. Наломіць вялікіх глыб, якіх потым не бярэ яго барана.

Даводзілася бачыць, як на шчыльных гляістых глебах такі гаспадар скача па полі і парыцца сам, бо цяжка і марудна разьбіваць гэтыя глыбы нават спэцыяльна зробленай *доўбнею* ці абухам сякеры.

На пескавой зямлі такія звычайныя папары „выглядаюць нібыто трохі вясялей, але і тут позны папар—гэта зьдзек над полем.

Цягае, цягае гаспадар па сваім папары вядомую нам барану (а яна так зроблена, што прыблізна палова зубоў бяжыць адзін за другім, і сваёй працы ня робяць), і радуецца ён, што набіў з глыбін пылу й попелу.

Пройдзе над ніваю радасны дожджык і нават ён, такі жаданы, больш пашкодзіць, чым паможа. Вада паўцягвае ў глыбіню зямлі гэты дробны пыл, зьлепліваючы яго ў моцную скарынку, і замуруе ў глебе карысных бактэрый, якім ўвесь час патрэбна вольнае паветра.

Калі гэткая скарынка зьявіцца на полі ў часе росту расьлін, то карэньчыкам таксама ня будзе хапаць паветра. Толькі шкодныя бактэрыі, якія могуць жыць і бяз сьвежага паветра, будуць дзякаваць гаспадару за яго „звычайны папар“.




Столькі дае заняты выкава-аўсяны папар.

Столькі дае звычайны сялянскі папар.

На сялянскім папары і гной мала паможа, бо калі ён трапіць пад сухія груды, між якімі застаюцца вялікія шчаліны, то гной толькі перасохне.

А калі будзе замурован скарынкай, таксама ён будзе раскладацца, прэць без карысьці для гаспадара. Вось чаму агрономы так злуюцца на гэты „звычайны папар“. Гэта іх найвялікшы вораг.

Урэшце і сам гаспадар ня вельмі цешыцца сваім папарам. Араць дрэнна, і скаціна ўсё раўна галодная.

Ня дзіва, што пасьля ўсіх гэтых думак і гутарак, нашы гаспадары пачынаюць марыць аб Сібіры, Амэрыцы, нават аб Самарскім спаленым сонцам стэпу.

Але ўсё-ж такі ня мала ў нас на Беларусі і такіх гаспадароў, якія ўжо даўно (мо‘ раней ад некаторых агрономаў) знашлі досыць добрае выйсьце з бяды.

Цяпер на гэты наш звычайны папар палезла і канюшына, і гарох, і бульба, нават ячмень і пшаніца.

У нас у Беларусі, асабліва на Меншчыне, і далей на захад, трохпалёўка ператварылася ў нешта больш цікавае і таму больш разумнае.

„Беларуская сялянская шасьціпалёўка“ (дзе палова папару занята канюшынай) і шэраг іншых нявыўчаных да гэтага часу цікавых севазваротаў утвораны нашымі сялянамі-гаспадарамі. Ці карысна ўсё гэта?

Жыцьцё ўжо дала свой адказ, што занятыя папары карысны, а чыстыя папары мала цікавяць сялянскую гаспадарку, асабліва ў нас на Беларусі.

У нас часта не хапае збожжа на харчаваньне людзей і рахаваць на тое, што лёгка будзе ад збожжа адабраць месца для травы, не магчыма. Ня толькі мешанка, але і канюшына ў нас амаль што выключна прытулілася ў папары. Гэта іх месца. У нашых кліматычных, глебавых і іншых умовах адсюль іх ня выкурыш.

Праўда, па чорным асеньнім, а таксама чыстым раньнім папары жыта часам дае і значна большы ўраджай, але-ж трэба рахаваць і той ураджай, які дасьць расьліна, займаючая папар.

Заняты папар павінен быць і заўсёды будзе далёка больш карысным ад чыстых. Толькі трэба паклапаціцца аб тым, каб ён быў узораны яшчэ з восені. Вясной, як толькі абсохне поле, трэба яго выскарадзіць, угноіць і перааараць.

Мо‘ яшчэ лепей будзе, асабліва на пескавым полі, частку гною даць пад жыта.

Чым-жа найлепей займаць папар?

Гэта, напэўна, залежыць ад кожнай гаспадаркі. Ня трэба дзівіцца, калі часам прыдзецца заняць папар і ячменем ці пшаніцай. Па ўгноенаму полю ў нас яны добра растуць, а пасьля іх гаспадар атрымлівае ня дрэннае, а часамі і вельмі добрае жыта. Але ўсё-ж такі я-б ня раіў рабіць гэта бяз вялікай патрэбы.

Вельмі добра, калі дазваляюць ці патрабуюць умовы гаспадаркі, заняць папар вядомай кожнаму селяніну мешанкай (*выка з аўсом альбо з ячменем*, часам з *дадачай пялюшкі* ці *гароху*). Мешанка дае разоў ў пяць больш корму, чым позны папар, ды й харч гэты больш цэнны. Толькі ня трэба пазьніцца з засевам, каб можна было раней падкашваць і раней аслабаніць поле дзеля апрацоўкі пад жыта.

Калі гаспадару патрэбен яшчэ больш раньні корм, то вельмі добра яшчэ з восені пасеяць пасьля ярыны жыта з зімовай выкай.

Некаторыя руплівыя і старанныя гаспадары-сяляне ўжо даўно пачалі палову сваёй ярыны сеяць з чырвонай канюшынай, і таму ў іх жывёла мае аж да самых марозаў добры корм і йдзе ў зіму сытай і моцнай; на другі год гэта палова папару занята канюшынай (яна ня любіць вельмі часта варочацца на тое-ж самае месца) і дае вельмі добры ўраджай пажыўнага сена альбо травы дзеля скаціны. А калі жывёле ёсьць корм, то і гаспадару добра.

Здараецца і так, што ў папару сядзяць бульбу ці сеюць гарох. І гэта на дрэнна. Праўда, часам гаспадары скардзяцца, што пасьля бульбы ня так добра родзіць жыта, але-ж рэдка яно будзе горшым, чым пасьля звычайнага папару, а з бульбы выйгранка.

Калі ўжо глеба вельмі дрэнная, а гною не хапае, дык нашаму гаспадару прыдзецца заняць папар лубінам на ўгнаеньне.

Пройдзе некалькі год, палепшыцца поле, тады і гэты гаспадар напэўна наскрабе гною хаця-б на палову папару і зойме яго чым-небудзь больш карысным, чым гэты вядомы нам прыяцель беларускага гаспадара—лубін.

Агулам кажучы, наш беларускі папар ужо вельмі часта выглядае таксама стракатa, як і яравая зьмена.

Праўда, у нас на Беларусі занятыя папары амаль што не дасьледаваны, але-ж гэта і ня дзіва, бо хто-ж даўней асабліва цікавіўся тым, ад чаго залежыць дабрабыт нашага селяніна.

Ён сам да ўсяго прыглядаўся, усё прабаваў, і „шукаў сабе шчасьця і долі“.

Таму, беларускаму агроному трэба поруч з селянінам працаваць над пытаньнямі сялянскай гаспадаркі.

Будзем-жа памятаць, што занятыя папары на Беларусі дадуць нам больш карысьці, чым малочныя рэкі Сібіры, Самаршчыны ці Амэрыкі.

Толькі трэба паклапаціцца, каб добрыя якасьці поля, якія атрымоўваюцца дзякуючы сваечасоваму і добраму вырабу і ўгнаеньню, злучыліся-бы з прыценьваньнем, якое робяць расьліны, калі яны добра раскарчацца.

Калі мы зараз жа пасьля ўборкі ўраджаю ў занятым папару пачнем рыхтаваць наша поле дзеля азіміны, так напэўна ня будзем шкадаваць а ні аб „звычайным“, а ні аб чыстым папары.

Тады мы, можа, згодзімся з вядомым нямецкім гаспадарам Шубартам, які ўжо паўтары сотні год таму назад казаў: „Чыстыя папары і выпас скаціны на палёх—гэта чума сельскае гаспадаркі“.

**С. Скандракоў.**

---

# Чысты раньні папар у параўнаньні з позным сялянскім.

Селянін у сваёй гаспадарцы павінен выкарыстаць усе спосабы, якія вядуць да паляпшэньня поля і падняцьця ўраджайнасьці. Пры гэтым у першую чаргу трэба выкарыстаць сваячасны і разумны выраб зямлі.

Нізкая ўраджайнасьць зімовага збожжа ў нашай сялянскай гаспадарцы (30-50 пуд. у сярэднім з дзесяціны) прымушае селяніна падумаць аб тым, як павялічыць гэтыя ўраджаі, і чаму часамі нават вывезены пад жыта гной не дае значнага павышэньня ўраджаю.

Адказ на гэтае запытаньне навука дае. Сялянскі папар мае толькі адмоўныя бакі і не дае ніякае карысьці і *як залеж*, і *як выган*.

Проф. Даярэнка дасьледаваў кармовую вартасьць познага сялянскага папару ў працягу некалькіх год, пасьля чаго здабыў такія вынікі:

| | 1915 г. | | | 1917 г. | | 1918 г. | | 1919 г. | | Сэрад. у пуд. на дзесяціну. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кармовыя травы . . | 1,5 | 5,4 | 8,0 | 2,5 | 15,0 | 4,7 | 9,9 | 11,1 | 3,4 | 6,2 |
| Розныя сарнякі . . | 69,6 | 126,6 | 38,8 | 31,5 | 45,0 | 68,0 | 111,3 | 48,4 | 33,3 | 85,1 |
| | 71,1 | 132,0 | 46,8 | 34,0 | 60,0 | 72,7 | 121,2 | 59,5 | 36,7 | 91,3 |

Такім чынам, проф. Даярэнка кажа, што ўвесь сэнс такога папару зьяўляецца ў атрыманьні 91,3 пуд. нягоднага корму, з якога

85,4 пуд. сарнякоў, якія засараюць поле; і толькі 6,2 пуд. прыгоднай для корму травы.

Грамадзянская агрономія раіць селяніну калі і мець папар, то толькі *чысты раньні*.

Па выніках проф. Даярэнкі чыстыя раньнія папары ў параўнаньні са звычайнымі сялянскімі павышаюць ураджайнасьць жыта на 56 пуд. з дзесяціны, ці на 50%.

З гэтага відаць, што нельга раўнаць сялянскі позны папар з папарам раньнім, як 6 пуд. 8 фун. добрага сена ня могуць быць параўнаны з паловай ураджаю жыта.

Выраб чыстага раньняга папару вельмі просты. Тут трэба толькі падтрымліваць пульхнасьць зямлі і не даваць ёй зарастаць сарнякамі. Калі сабрана ярына, поле заворваецца і пакідаецца так зімаваць. За восень і вясну яно набярэ шмат вільгаці і наогул створацца спрыяйныя ўмовы для росту расьлін. Вясною, калі поле добра прасохне, яго скародзяць. З мэтай падтрыманьня пульхнасьці і для зьнішчэньня шкодных траў папар скародзяць яшчэ 2-3 разы на працягу лета. Як толькі ярына адсеецца, на папар зараз-жа трэба вывезьці гной, адразу яго заараць на глыбіню да 4 вяршк. і праз нейкі час забаранаваць. Тыдні за два перад засевам жыта папар яшчэ раз пераворваецца.

Гаспадар мусіць клапаціцца аб тым, каб стварыць такія умовы, якія-б далі мажлівасьць атрымаць найбольшы ўраджай. А гэта магчыма толькі тады, калі поле будзе мець доступ паветра і вільгаці і будзе складацца з дробных грудак.

Раньні чысты папар зусім адпавядае гэтым умовам. Акром таго, да часу засева жыта раньні папар зьбірае сам у пяць раз больш салетры, чым позны сялянскі. Салетра (азотнае ўгнаеньне) для збожжа вельмі патрэбна.

Загэтым, чысты раньні папар і падымае ўраджай на 50%.

(Горкі, С-г. І—т). **А. Дзямідовіч.**

---

# Догляд за бульбаю пасьля пасадкі.

Бульба, як і ўсе асыпныя расьліны (буракі, бручка, морква, рэпа), патрабуе вельмі пільнага догляду пасьля пасадкі. Часта добры ўраджай бульбы на палову залежыць ад умелага і сваячаснага догляду. На рознай зямлі і ў залежнасьці ад ходу вясны і лета догляд будзе розьніцца, але ўсе-ж такі ў большасьці ён складаецца з гэткіх работ:

1) баранаваньне ральлі пасьля пасадкі бульбы;
2) першае абворываньне і ўсьлед за ім другое баранаваньне;
3) першае абворываньне бульбы ў гранкі;
4) другое і рэдка трэцяе абворываньне ў гранкі (ў пачатку красаваньня бульбы);
5) поліво.

Першая праца па догляду за бульбай—гэта баранаваньне. Часта яно спаўняецца праз 1-2 тыдні пасьля пасадкі. Але тэрмін гэты вельмі няпэўны. Часта барануюць ральлю і праз некалькі дзён пасьля пасадкі. Напрыклад, калі поле пад бульбаю пескавое ці знаходзіцца на якім-небудзь узгорку, або стаіць сухая вясна з частымі ветрамі, якія

хутка высушваюць ральлю, то з баранаваньнем трэба сьпяшацца. Пабітыя грудкі ральлі ня гэтак хутка трацяць вільгаць і поле не прасыхае глыбока.

На цяжкой зямлі, ці больш мокрай з баранаваньнем ня вельмі сьпяшаюцца, але ні ў якім разе нельга адкладваць яго пазьней таго часу, калі зьяўляюцца першыя ўсходы. Можа здарыцца, што на полі зьяўляецца шмат шкодных траў або, калі да пасадкі бульбы поле было выраблена дрэнна, то ў гэтым выпадку поле барануецца раней.

Хутка пасьля баранаваньня, але не далей, як зьявіцца прыблізна палова ўсходаў, бульба абворваецца аднаконным плугам, або асыпнікам ці сахою. Гэтым мы разьмякчаем поле паміж будучых гранак, нішчым шкодныя травы і часткаю прысыпаем усходы. Але прысыпаньне ўсходаў трэба лічыць шкодным таму, што гэтым мы прысыпаем зялёныя лісьця бульбы і тым паслабляем яе ліставую работу.

Вось чаму заўсёды зараз-жа пасьля першага абворваньня бульбы (чым-бы яно ні рабілася) неабходна пускаць барану. Баранаваньне ў два-тры сьляды згортвае зямлю ў барозны і прадзірае яе там, дзе яна была вельмі шчыльнай і перашкаджала адначаснасьці ўсходаў бульбы.

Пры нязначнай плошчы бульбы першае абворваньне можна замяніць матыкаваньнем.

Далей, калі ўсходы бульбы падымуцца ўжо на 3-4 вяршкі (тыдні 2 пасьля абворваньня) бульбу абворваюць у гранкі. Робіцца гэта сахою або асыпнікам („плужком“). Пасьля гэтага асыпаньня бараны ўжо не пускаюць і поле застаецца ў гранках. Аднак, калі поле пескавое або год вельмі сухі, то лепш і цяпер пусьціць барану ў 1-2 сьляды, каб напалову зараўнаць барозны.

Бывае, абворваючы бульбу ў гранкі, маладыя і позныя ўсходы бульбы прысыпаюцца зямлёю, чаму ў час абворваньня за асыпнікам ідзе падростак ці жанчына, і рукамі разгортвае зямлю з прысыпаных расьлін.

Перад асыпкаю бульбы ў гранкі ня лішнім бывае і апалоць бульбу, калі яна зарасла травамі. Здараецца, што поліво патрэбна зрабіць і ў другі раз пасьля асыпаньня бульбы.

Другое і рэдка трэцяе абворваньне бульбы спаўняецца тым-жа асыпнікам. У гэтым разе яго пускаюць глыбей, каб гранкі зрабіць больш высокімі. Па часе гэта праца спаўняецца да красаваньня бульбы і ні ў якім разе не пазьней пачатку красаваньня. Больш познае асыпаньне ня мае значэньня, бо сьцябліны бульбы да гэтага часу застарэюць і не дадуць ужо багатага карэньня, а гэтак-жа і маладых бульбінак для будучага ўраджаю.

Як бачым, увесь догляд за бульбай складаецца з узрыхленьня поля, барацьбы са шкоднымі травамі і асыпаньня. Усе гэтыя работы, апрача поліва, лепш спаўняць пасьля дажджу.

За *добры догляд бульба заплаціць* сваім ураджаем.

**Сьц. Тупяневіч.**

---

# Як сеяць лён.

У нас на Беларусі ўсё спрыяе засевам лёну, каб ад яго мець добры прыбытак.

Лён добра расьце на нізіне (ня вельмі сырой), на лёгкім суглінку і нават супескавым полі. Поле з блізкаю грунтоваю водою, або цяжкае суглінкавае, вельмі пагнойны чорназём ці балотная глеба не спрыяюць росту лёну. Ня любіць лён і вельмі лёгкага пескавога поля.

Лён патрабуе і шмат пажыўных сокаў, асабліва калі добры ўплыў на яго робяць супэрфосфат і тамасшлак (фосфор). Значнае ўгнаеньне поля пад лён ня раіцца, бо сьцяблінкі лёну будуць гучыцца. Заўсёды лепш угнойваць папярэднюю расьліну, а лён сеяць другім коранем.

## Дзе сеяць лён.

Найлепшым месцам у севазвароце пад лён будзе поле пасьля ўгноенага жыта ці бульбы. Лён добра расьце на канюшынішчы, а таксама і на дзерванох. Добрым севазваротам для лёну будзе травяное і корняплоднае шматпольле. Магчыма атрымоўваць добрыя ўраджаі лёну і пры трохпольлі, але пры ўмовах раньняга выпрабленьня папаруі пры асеньнім араньні поля на поўную глыбіню.

На Маскоўскай льняной станцыі ў 1922 г. пры дасьледаваньні трохпольных севазваротаў мелі такія вынікі—

Непалепшанае трохпольле дало--семя 12 п., трэпанага валакна 24,6 п.
Палепш. 3-х польле (раньні папар) „ 21 „ „ „ 31,3 п.

Перавага ўраджаю за палепшаным трохпольлем, вельмі выразная. Такая-ж розьніца пры параўнаньні ўраджаю лёну на канюшынішчы з паўмяккаю глебай.

На канюшынішчы . . . . семя 32,2 п., трэпанага валакна 38 пуд.
На паўмяккім полі . . . . „ 27,3 „ „ „ 25,3 „

## Якім насеньнем сеяць.

Калі гаспадар выбраў добрае месца ў севазвароце для засеву лёну, а поле добра ўгноена і сваячасна выраблена, але ня зьвернута належная ўвага на насеньне, то добрага ўраджаю ня будзе. Уся патрачаная праца і сродкі ня будуць аплачаны. Насеньне павінна быць добрага гатунку (лёну-даўгунцу), сьвежае, поўнай вагі, бліскучае і бяз гнілога паху, а галоўнае, без насеньня шкодных траў. Перад засевам семя трэба ачысьціць. Страты на ачыстку і сартаваньне заўсёды зьвернуцца.

## Як густа сеяць.

Сеецца лён дзеля валакна і семя. Калі маюць на ўвазе атрыманьне семя—сеюць рэдка (4-5 пуд. на дзесяціну). На валакно сеюць гусьцей (ад 10 да 15 пуд. на дзес.). Калі-ж жадаюць мець семя і валакно, то сярэднюю нормаю будзе 6—8 пуд. Па досьледам Маскоўскае льняное станцыі па гэтым пытаньні ёсьць такія вынікі.

| КОЛЬКІ ВЫСЕЕНА | Семя (сярэднее за 5 г.) | Трэпанага валакна (за 4 гады) |
|---|---|---|
| Пры высеву 5 пуд. на дзес. атрымана | 18,2 п. | 15,1 п. |
| „ $7^1/_2$ „ „ „ | 22,8 „ | 20,1 „ |
| „ 10 „ „ „ | 20,8 „ | 21,4 „ |
| „ 15 „ „ „ | 21,1 „ | 27,7 „ |

Гэта таблічка паказвае, што загушчваньня засеву баяцца ня трэба. З павялічэньнем высеву на дзесяціну ўзрастае і ўраджай.

**Калі сеяць лён.**

Ад сваечасовага засеву залежыць ураджай. Некаторыя гаспадары веснавую працу і сяўбу вызначаюць па розных прыметах ці каляндарным часе, затым часта позьняцца і маюць дрэнны ўраджай. Лён патрэбна сеяць у той час, калі зямля цёплая, вільготная і добра выраблена. Перавагу раньчіх засеваў можам бачыць з прыкладаў Маскоўскае льняное станцыі.

| | Семя (сярэдн. ур. за 6 г.) | Трэпанага валакна (за 4 гады) |
|---|---|---|
| Пры сяўбе 30 красавіка | 21,4 п. | 33, 9 п. |
| „ 9 траўня | 15,5 „ | 29, 9 „ |
| „ 18 „ | 12,5 „ | 27, 5 „ |
| „ 27 „ | 7,8 „ | 19,21 „ |
| „ 5 чэрвеня | 4,5 „ | 18, 4 „ |

Падобныя вынікі мела і Валакаламскае дасьледчае поле, Маскоўскай губэрні.

**Як сеяць лён.**

Лён можна сеяць і ручным спосабам. Пры гэтым палову насеньня высеяць у адным кірунку, а палову ў другім. Аднака, ручным спосабам трудна дасягнуць роўнага засеву. Машынны спосаб (раскідны) зьяўляецца найлепшым. Радковы засеў лёну ня раіцца, бо ад гэтага бывае непажаданае гучэньне лёну.

Баранаваць засеў лепш жалезнаю бараной у некалькі сьлядоў. На кепска вырабленым полі лён будзе рэдкі й нізкарослы. Але пры захаваньні ўсіх пералічаных вышэй умоў сеў лёну можа быць вельмі карысным.

**А. Савельлеў.**

(Горкі С-Г. І-т).

---

# Грэчка.

Грэчка ня вельмі пераборліва на поле. Сухія і пульхныя пяскі можна скарыстаць для засеву грэчкі. Добра расьце яна і на асушаных балотах. На глебах-жа больш цяжкіх, грэчка ўступае месца іншай ярыне. На поўдні Беларусі (Палесьсе) засевы грэчкі пашыраны (11 дзесяцін на кожныя 100 дзес. засеву). Далей на поўнач, дзе на полі больш суглінкаў і падзолу, грэчку сеюць менш, а ў Віцебшчыне яе амаль не спатыкаеш.

Выробленьне поля пад грэчку самае звычайнае. Найлепш поле першы раз узараць ўвосень, а другі—вясною. Вясеньняя мешань ці траеньне ўраджаю не павялічвае.

Угнойваць поле пад грэчку ня трэба. Па гною яна вельмі добра расьце, але красаваньне зацягваецца і зярно выходзіць шчуплым Ня лішнім будзе ўгноіць поле попелам, калі ён ёсьць.

Грэчка баіцца веснавых прымаразкаў, чаму ў Беларусі звычайну грэчку сеюць у канцы траўня або ў пачатку чэрвеня, і часта ў дватры тэрміны, бо селянін усё-ж такі ня ведае напэўна, калі сеяць грэчка.

*Турская дасьледчатая станцыя* пасьля некалькіх год вывучэньня тэрміну засеву грэчкі адказвае, што засевы грэчкі да 15 траўня і пазьней чэрвеня месяца не ўдаюцца. Засевы ў другой палове траўня таксама часта няпэўны. Найлепшы ўраджай грэчкі даюць засевы ў чэрвені месяцы (паміж 10 і 25). Дзеля засеву патрэбна выбіраць найлепшае насеньне, хаця сяляне памылкова з гэтым ня лічацца: яны шкадуюць добрага насеньня, бо ня ўпэўнены ў добрым ураджаі.

Сеюць грэчку раскідным і радковым спосабамі. На дзесяціну бярэцца 5-8 пуд. пры раскідным севу і 4-5 пуд. пры радковым. Закрываецца насеньне ад $^1/_2$ да $1^1/_2$ вярш. глыбіны, але гэта залежыць ад поля (На пескавым—глыбей, на цяжкім—мялчэй).

Грэчка (зярно) дае добрыя крупы і муку, а салома і мякіна йдзе на корм скаціне. Сялянам трэба памятаць, што салому і мякіну грэчкі нельга даваць авечкам, бо ў іх пачынае лезьці воўна. Калі перад кормам мякіну і салому запарыць, то яны трацяць сваю шкадлівасьць.

Найлепшыя ўраджаі грэчкі бываюць у той год, калі лета цёплае і сырое, а ў час высьпяваньня стаіць ясная, гарачая пагода.

**А. Казлоўскі.**

---

# Пажніўны і падсяўны лубін.

Пажніўны лубін разводзяць з мэтай угнаеньня малаўраджайнага поля. Гэта можна рабіць у тых выпадках, калі пагода пасьля збору зімовага збожжа і раньняй ярыны дае магчымасьць нарасьці зялёнай масе лубіну і тады, калі гаспадарка слаба забясьпечана жывёлай і дзеля ўгнаеньня поля патрэбны ўжо іншыя спосабы.

Пажыўныя матэрыі, якія лёгка вымываюцца з зямлі дажджом углыб, пажніўны лубін скарыстоўвае і тым самым захоўвае іх ад вымываньня. Нарэшце, пажніўны лубін пасьпявае да восені вырасьці вялікім і глушыць сарнякі.

Клімат Беларусі дазваляе сеяць лубін на аржоньні.

Ад жытняга жніва, якое на Беларусі звычайна прыпадае на палову ліпеня, да кастрычніка застаецца амаль $2^1/_2$ мес. У гэты тэрмін пажніўныя расьліны могуць мець каля 200 мілімэтраў ападкаў і каля $1000^0$ цяпла. За $2^1/_2$ месяцы лубін пасьпявае вырасьці даволі вялікі.

*Спосабы засеву лубіну.* Каб скарыстаць лубін пасьля ўборкі жыта, можна зрабіць двояка: 1) падсеяць лубін у растучае жыта, або 2) сеяць яго адразу пасьля жніва жыта. Адсюль і адрозьніваюць лубін *падсяўны і пажніўны.*

Дасьледчыя станцыі, якія акружаюць Беларусь, рабілі належныя досьледы і большасьць іх вынікаў сьведчыць аб тым, што падсяўны лубін расьце большы, але ў сухі год вынікі бываюць не заўсёды дорбымі. Беларуская дасьледчая станцыя займаецца гэтым самым пытаньнем, але пакуль што нам прыходзіцца карыстацца вынікамі

бліжэйшых да нас дасьледчых станцый, як Новазыбкаўская (Гомельскай губ.), Радамысьльская (паўночная частка Кіеўскай губ.) і Віленская (каля Вільні).

*Лубін падсяўны.* Часьцей лубін падсяюць у жыта, менш у ячмень і авёс. Лепшыя вынікі бываюць, калі жыта сеецца па гною. Дзеля лубіну мае значэньне і тэрмін засеву. Зразумела, што пры больш раньнім падсеву лубін дасьць больш залёнае масы, але ў такім разе будзе перашкаджаць жніву. Затым лубін падсяюць у часе, калі красуе жыта (Новазыбкаў) ці як выплывае (Вільня). Насеньне лубіну пры гэтым застаецца ня закрытым і дзеля падсеву часьцей раяць карыстацца насеньнем жоўтага лубіну, бо яго зярняты шчыльней прылягаюць да зямлі і, значыць, могуць атрымаць больш вільгаці дзеля прарастаньня. Акром таго, жоўты лубін спачатку павальней расьце і ня так глушыць жыта. Часамі-ж да жоўтага лубіну прымешваюць насеньне сіняга і сеюць мешанку.

Пры падсеве лубіну на 1 дзес. патрэбна насеньня:

а) жоўтага лубіну . . 12 пуд.
б) сіняга „ . . 10 пуд.

Пры параўнаньні розных відаў лубіну, Новазыбкаўская дасьледчая станцыя атрымала такі лік зялёнае масы на дзесяціну:

а) жоўты лубін даў . . 1159 пуд.
а) сіні „ „ . . 1037 „
в) мешанка сіняга і жоўтага . 1011 „

Розьніца паміж засевамі жоўтага і сіняга лубіну не вялікая.

Што датычыць жыта, то ўраджай яго пры падсеўным лубіну таксама не зьмяншаецца, а як відаць з паданых лічбаў (Новазыбкаўская станцыя) нават крыху павялічваецца.

Жыта без падсеву лубіну дало 55 пуд. зярна і 100 пуд. саломы.
Жыта з падсевам „ „ 59 „ „ „ 105 „ „

Падсяючы лубін у жыта і пасьля заворваючы яго, Віленская дасьледчая станцыя на працягу ўжо некалькіх год сее жыта па жыце і мае добрыя ўраджаі.

Напрыклад, ураджай жыта:

а) без падсеву лубіну 48 пуд. зярна і 85 пуд. саломы;
б) з падсевам „ 94 „ „ „ 109 „ „

Гэта асабліва важна пры нашым малазямельлі. Дзякуючы падсеву лубіну можна на адным полі без папару з году ў год сеяць жыта і іншыя палявыя расьліны.

*Пажніўны лубін.* Пры пажыўным лубіну немцы трымаюцца такога парадку: калі зранку зжалі жыта, то ўжо пад вечар пачынаюць араць іржышча і сеюць лубін. Гэтым яны захоўваюць поле ад высыханьня і ўтвараюць умовы дзеля дружнага прарастаньня насеньня лубіну. Калі лета сухое, то, зжаўшы жыта, поле заворваецца глыбінёю $1^1/_2$-2 вяршкі; пры мокрым леце араць можна глыбей (2-3 вяршкі). Высяюць на 1 дзес. лубіну 12-14 пуд. Спосаб засеву можа быць, як раскідны, так і радковы.

Новазыбкаўская станцыя практыкавала розныя засевы лубіну, паміж іх і засеў па аржоньні з заворваньнем. Вынікі досьледаў такія—

Радковы засеў даў . . . . 853 пуд. зялёнае масы.
Раскідны „ „ . . . . . 709 „ „ „
Раскідны засеў па аржоньні з заворваньнем 794 „ „ „

З прыведзеных лічбаў відаць, што засеў лубіну па аржоньні з заворваньнем павінен зьвяртаць увагу гаспадароў.

Калі ўсьлед за пажніўным лубінам сеецца жыта, то заворваць лубін трэба раней, не чакаючы восені ці поўнага разьвіцьця лубіну.

Падаем вынікі досьледаў Радамысьльскай станцыі на пяскох.

Ураджаі жыта па пажніўнаму лубіну былі:

а) бяз лубіну 25 пуд. зярна і 50 пуд. саломы.
б) па лубіну 57 „ „ „ 112 „ „

Ураджайнасьць узьнялася на 32 пуды. Пры засевах пасьля пажніўнага лубіну аўса, ячменю, бульбы ці корняплодаў заворваць лубін можна пазьней і нават вясною; прычым, вялікай розьніцы ўраджаяў паміж асеньнім і веснавым завараваньні няма.

Значэньне лубіну, як угнаеньня, надта вялікае. Гэта відаць і з досьледу Радамысьльскай станцыі.

Ураджай бульбы з дзесяціны.

| | |
|---|---|
| а) бяз лубіну . . . . . . . . | 240 пуд. |
| б) пры ўгнаеньні пажніўным лубінам . . | 424 „ |
| в) пры ўгнаеньні пажніўн. лубінам і 1200 п. гною | 864 „ |
| г) „ „ „ „ 2400 „ „ | 1118 „ |
| д) „ „ „ „ 3600 „ „ | 1220 „ |

Лічбы ўраджаю паказваюць, што лубін значна павялічвае ўраджай бульбы, а з другога боку, пры ўмовах паўднёвае часткі Беларусі, лік гною 2400—3600 пуд. не заўсёды аплачваецца ўраджаем бульбы. Акром таго, пажніўны лубін прыкладам пудоў на 10 павялічвае ўраджай аўса, пасеенага сьледам за бульбай.

**Уражай грэчкі з дзесяціны.**

а) бяз лубіну . . . 27 пуд. зярна і 59 пуд. саломы
б) пры ўгнаеньні лубінам . 54 „ „ 138 „ „

Розьніца ўраджаю на 32 пуд. зярна і 79 пуд. саломы. Новазыбкаўская станцыя рабіла досьледы, што лепей павялічвае ўраджай бульбы: ці пажніўны лубін, ці іншыя расьліны, як сэрадэля, грэчка, гарчыца; ураджай у пудох быў гэткі—

Пры 1509 пуд. зялёнае масы лубіну—1500 пуд. бульбы.
„ 1575 „ „ „ сэрадэлі—1580 „ „
„ 231 „ „ „ грэчкі—1040 „ „
„ 113 „ „ „ гарчыцы—970 „ „
„ 1200 пуд. гною . . . 1105 „ „

Лічбы сьведчаць, што пасьля сэрадэлі лубін зьяўляецца найлепшай расьлінай, якая павялічвае ўраджай бульбы больш, чым 1200 пудоў гною.

З паданага прыходзім да выніку, што пажніўны і падсяўны лубін на лёгкай пескавой зямлі можа значна павялічыць ураджай усіх палявых расьлін.

В. Жыван.

# Карысная сувязь бабовых расьлін з гузачковымі бактэрыямі.

У глебе, як і ў паветры, знаходзіцца шмат маленькіх жывёлак, якія завуцца бактэрыямі. Сярод розных бактэрыяў глебы вельмі цікавымі зьяўляюцца бактэры, спажываючыя азот паветра. Іх асаблівасьць знаходзіцца ў тым, што яны могуць сяліцца на карэньнях бабовых, карміцца азотам паветра і часткаю сокам той расьліны, на якую яны садзяцца.

Дзеля гэтага, калі разводзіць бабовыя расьліны, мы тым самым узбагачаем глебу азотам, бо бабовыя мала таго, што не бяруць дзеля свайго ўзросту азот з глебы, а наадварот павялічваюць яго колькасьць, пакідаючы часткі сваіх карэньняў; яны, згніваючы, даюць пажыўныя сокі (багатыя азотам) дзеля наступных расьлін. А такія расьліны, як лубін, калі іх заараць, поўнасьцю аддаюць глебе ўвесь сабраны азот. Паназіраньню лубін у час красаваньня можа даць столькі расьлінай масы з дзесяціны, колькі даюць 2400 пуд. гною.



Папярочны парэз гузачка.

Выгляд кораня лубіна з гузачкамі.

Карэньні бабовых заўсёды нясуць на сабе невялікія гузачкі (клубянькі). Утварэньне гузачкоў ёсьць вынік сумеснага жыцьця двух організмаў: бабовага (лубін, выка гарох,) з другімі больш простымі істотамі—бактэрыямі. У выніку гэтага бабовыя ўзмоцнена растуць пры *добрым разьвіцьці бактэрыяў*.

Калі зрабіць папярочны і тонкі адцінак брытваю цераз корань бабовай расьліны (гл. мал. стар. 16) ў месцы, дзе прымацован гузачок, дык пад мікроскопам*) убачым, што знадворку галоўная маса гузачка мае звычайную пабудову расьліны (парэнхіма); у сярэдзіне гузачок мае бактэрыйную тканку (4). Гэта тканка галоўным чынам скла-

*) Мікроскоп—прылада з шкламі, якія павялічваюць у 1000 і больш раз.

даецца з палачак быўшых бактэрыяў, але зьмешаных з асобнай сьлізьзю багатаю белкавінаю.

Утвараюцца гузачкі гэтак: як толькі купа бактэрыяў аселіцца на карэньнях бабовой расьліны, іх пачынае засьцілаць абалонка расьліны якая далей утварае мяшок. Карань-жа ў гэтым месцы пачынае ўзмоцнена разрастацца, бо жыцьцё тут бактэрыяў зьяўляецца дзеля яго ўсё-ж такі хваравітым зьявішчам. Тканкі кораня пачынаюць выпінацца ў той бок, дзе асяліліся бактэры, і ў выніку выпінаньня ўтвараюцца гузачкі.




Папярочны адзінак кораня лубіна. 1—надворная тканка. 2.—Цантровыя трубкі кораня. 3—Трубкі дзеля сувязі цэнтравых трубак з бактэрыйнаю тканкаю 4—Бактэрыйная тканка. 5—Махрачыкі кораня.

У далейшым тканкі бактэрыйнага мяшка раскладаюцца сокамі карэньняў расьліны і зьмешваюцца з імі. Гэта бактэрыйная тканка і ўсе паасобныя яе абалонкі лёгка распушчаюцца ў соку бабовага (белкавіна) і пераходзяць у расьліну па тонкім трубачкам (з), якія зьвязваюцца з гузачкамі. Такім чынам, з бактэрыйнай тканкі расьліна, чарпае патрэбны дзеля сабе азот.

Як бачым, расьяліны перш дапамагаюць бактэрыям сваім сокам адбудаваць ім бактэрыйную тканку, якую ў далейшым расьліна скарыстоўвае дзеля свайго росту.

Вось такая роля бактэрыяў у пажыве бабовых вольным азотам.

Калі бабовыя расьліны дасягаюць свайго поўнага разьвіцьця, то і ў той час частка бактэрыйнай тканкі застаецца не скарыстанай. Астатняя частка закрываецца таксама цьвёрдай абалонкай і ўтварае колёніі бактэрыяў. Далей яны зьмешваюцца з глебай і служаць дзеля заражэньня карэньчыкаў наступнаю вясною.

Гэтак адбываецца заражэньне глебы азоцістымі бактэрыямі. І зразумела чаму бабовыя, як лубін, пры засеву першы раз маюць слабы рост. Калі толькі заразіць гэта поле бактэрыямі, то ўраджай павялічыцца.

Агроном **Д. Пракапенка.**

---

# Досьлед з пажніўным лубінам на агранамічным пункту Карытні.

Беларускім гаспадаром добра вядома вялікая карысьць ад угнаеньня поля лубінам, асабліва на пескавым і супескавым полі. Пры нашым малазямельлі трэба ўмець скарыстаць зямлю. Калі гною ў гаспадарцы не хапае, дык трэба ўжываць зялёнае лубінавае ўгнаеньне.

Пры нашым клімаце можна пад засеў лубіну з посьпехам скарыстаць поле з-пад жыта ці ячменю, а зялёнае ўгнаеньне лубіну скарыстаць засевам аўса ці бульбы ў наступным годзе.

У 1924 годзе на агрономічным пункту Карытні, Бабруйскае акругі, ставіўся паказальны досьлед аб карысьці пажніўнага лубіну. Дзеля гэтага ў 1923 годзе зараз-жа пасьля жніва поле заворвалася на 2-3 вяршкі глыбінёю, баранавалася і сеяўся лубін (на 1 дзес. 14 пуд. насеньня). Ўвосень, як толькі лубін зацьвіў ці з прычыны прымаразкаў перастаў расьці, яго глыбока зааралі, а вясною 1924 г. пасадзілі бульбу.

Дзялянкі былі ў 80 саж. Вынікі досьледу гэтакія:

| №№ дзялянак | Пасьля чаго расла бульба | Ураджай з 80 кв. сажн. | | Ураджай з дзесяціны ў пудох. |
|---|---|---|---|---|
| | | Пуд. | Фунт | |
| 1 | Пажніўны лубін . . . . . | 43 | 28 | 1311 |
| 2 | Заворана ўвосень 80 п. гною . | 55 | 20 | 1665 |
| 3 | Заворана ўвосень 80 п. гною . | 59 | 28 | 1791 |
| 4 | Бяз лубіну і гною . . . . | 23 | 12 | 699 |

Як відаць, ураджай бульбы па лубіну мала чым меншы ад ураджаю па 2400 пуд. гною.

Такім чынам, можна павялічыць ураджайнасьць нашага поля, скарыстаўшы пажніўны лубін. Гэта лепш рабіць тады, калі ўся папарная зьмена займаецца канюшынай, выкай і г. д.*).

Агроном **П. Сяргейчык.**

# Якое шматпольле завялі ў сябе Валакалацкія сяляне.

*(Вёска Валакалакі, Дубровенскага раёну, Аршанскае акругі).*

У адным з глухіх куткоў Дубравенскага раёну, дзе нават і агроном рэдка бываў, сяляне самі ўбачылі, што гаспадаркі іх робяцца час-ад-часу горшымі. Некаторыя з іх пачалі шукаць выйсьця. Яны выпісалі сабе сялянскую газэту, у якой разглядаюцца пытаньні сельскай гаспадаркі. Прачытаўшы адзін з нумароў гэтае газэты, дзе пісалася аб севазваротах, два маладых гаспадары Шыбанаў Платон і Анішчэнка Мікіта, якія былі раней у Чырвонай арміі, абрахавалі завесьці ў сябе шматпольле. Справа гэта сур'ёзная і цяжкая, а дзеля іх яна была яшчэ горшай, бо сяляне-суседзі глядзелі на гэта скоса і, як казалі

*) Рэд. Просьба да чытачоў часоп. „Плуг“ поведаміць лістом с.-г. сэкцыю Інбелкульту, хто, дзе, калі і колькі сеяў лубін у аржоньні. Адрас: Менск. Інбелкульт. Ліст ідзе бяз маркі.

самі Шыбанаў і Анішчэнка, ім даводзілася разьбіваць сваю зямлю на зьмены ў месячную ноч, каб толькі ня чуць нудных размоў суседзяў.

*Які-ж севазварот яны завялі?* Гаспадаркі невялікія: у аднаго 4 дзесяціны, а ў другога 6. Зямля суглiністая. Добра абмеркаваўшы, што раілася ў газэце, яны вылічылі, што гаспадарку найлепш будзе будаваць на жывёлаводны лад, гэта знача, каб увесь прыбытак браць з малака ды масла, а не ад збожжа. Загэтым яны і абралі 8-мiпольны севазварот, дзе можна мець найбольш корму.

Чаргаваньне расьлін у севазвароце было такім—

1. Папар заняты.
2. Жыта з падсевам канюшыны
3. Канюшына 1-га году.
4. Канюшына другога году.
5. Бульба.
6. Ярына (пшаніца, ячмень).
7. Гарох, выка.
8. Авёс.

Кожны год гаспадары будуць мець адно поле жыта, 2 поля канюшыны, 1 поле бульбы, 3 поля ўсялякай ярыны і 1 поле выкі на сена.

Гэты севазварот дае магчымасьць мець з свае гаспадаркі бульбу і гуменныя кармы, як сена, салома, мякіна, так і моцныя, як авёс, ячмень, выка.

*Што-ж зрабілі новага гаспадары ў параўнаньні з трохпалёўкай?* Першае, тут заведзена новая расьліна-канюшына, якая дае больш прыбытку, чым жыта альбо авёс. Яна дае з 1 дзесяціны 250 пуд. сена і калі палічыць пуд па 30 кап., то адна дзес. дасьць 75 руб. Жыта-ж з ураджаем 50 пуд. зярна на дзесяціну па 80 кап. за пуд дасьць толькі 40 руб.; ды яшчэ 100 пуд. саломы на 10 руб. (10 кап. пуд), а ўсяго разам на 50 руб. Апрача таго, канюшына, як мы ведаем, ня вельмі пустошыць поле.

Папар у гэтым севазвароце заняты мешанкай выкі з аўсом. Праўда, ураджай жыта пасьля гэтай мешанкі пудоў на 5 будзе меншым чым на папары, але мешанка дае пудоў 170 добрага сена ці ўдалы зялёны корм летам.

Далей, у новым севазвароце сталі больш садзіць бульбы, што гэтак-жа карысна. Прыблізна 500 пуд. бульбы з 1 дзесяціны дадуць 100 руб., калі лічыць па 20 кап. за пуд.

Усе гэтыя расьліны даюць магчымасьць трымаць больш кароў, сьвіней і іншае скаціны. А скаціна, ядучы корм, пераводзіць яго ў малако і ў гной.

У новым севазвароце ўсе расьліны чаргуюцца ў раз вызначаным парадку. Чаму ніякае блутаніны няма.

Шабанаў і Анішчэнка зрабілі ўсё гэта самі без дапамогі агранома, і той севазварот, які быў апісан у газэце, яны ўзялі ня ўвесь, а прыстасавалі яго да сваіх гаспадарак.

Цяпер яны ўжо паляпшаюць сваю скаціну, дзеля чаго запісваюць удой і корм, каб можна было выбраць найлепшую карову і далей ад яе пакінуць добрае племя.

Аб гэтых гаспадарох цяпер, здаецца, ведае ўся акруга і часта здараецца, што калі блізка дзе загавораць аб севазваротах, то заўсёды ўспамінаюць, як Платон і Мікіта *завялі самі шматпольле.*

**Ф. Плятнэр.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Як гадаваць цялят вясной і летам.

У гаспадарках нашых сялян цяляты родзяцца галоўным чынам ад студзеня да красавіка. Калі здараецца, што каровы целяцца позна вясною ці летам, то такіх цялят не гадуюць. Гэта робіцца затым, што ў рабочую пару малако патрэбна і дзеля сям'і гаспадара. З гэтай прычыны мы разгледзім гадоўлю цялят толькі тых, якія вясною маюць каля 3-х месяцаў.

Да 3-х месяцаў цялят трэба карміць перш малаком, а далей пойлам, сенам, мукой і цэлым зярном аўса. Пасьля 3-х месяцаў цялятам можна даваць сьвежа-скошаную траву ці пускаць іх на пашу.

У 3 мясяцы сялянскія цялята важаць каля 3½-4 пуд. Пры такой вазе ім трэба на норме 7 фунт. кармовых адзінак (ці проста 7 фун. сярэдняга аўса).Гэтыя 7 кармовых адзінак цяляты могуць атрымаць у розных кармох. Вясной, калі цяляты пасуцца на добрай траве, то яны зьядаюць каля 18 фун. травы, што замянае 5 фун. кармовых адзінак, а недахватку 4 фун. кармовых адзінак абавязкова патрэбна дадаць аўсом. Авёс лепш усяго даваць цялятам 3 разы ў дзень (раніцай, днём і ўвечары). Без аўса цяляты хаця й растуць, але вельмі дрэнна. Ад такіх цялят нельга чакаць добрай каровы, бо яны самі заморкі. Хаця авёс і патрэбен у гаспадарцы, але калі памятаць, што з цяляці вырасьце дойная карова на некалькі год, то аўса шкадаваць ня трэба. Калі цялят падкармліваць аўсом, то з іх будуць буйнейшыя каровы і такім чынам далей можна павялічаць жывую вагу сялянскіх кароў. Паіць цялят трэба 3 разы ў дзень чыстай вадой.

Пераход ад хляўнога ўтрыманьня цялят да веснавога ці летняга павінен быць паступовы. Першыя дні цялята кормяцца ў хлеве сухімі кармамі і выганяюцца на 1-2 гадзіны ў дзень; на 4 дзень на 3 гадзіны, на 7 дзень на 6 гадзін, далей і на цэлы дзень.

Вясной лепш усяго пасьвіць цялят у загарадцы. Для гэтага кавалак добрай пашы абносяць плотам і цялята там ходзяць увесь час. Летам цялят ня можна трымаць у хлеве, а таксама і пасьвіць іх на прывязі. Цяляты, як маладая жывёліна, павінны гуляць на прасторы, бо для іх вельмі патрэбна сьвежае паветра.

Калі пашы добрай няма, то цялят падкармліваюць кошанай травой. Падкормку гэту трэба рабіць абавязкова ў загарадцы, а ня ў хлеве. У хлеў-жа летам скаціну можна заганяць толькі на ноч.

Вясной у падкормку цялятам можна даваць траву, сабраную з меж; далей у палове ці канцы траўня падрастае канюшына і выкавая мешанка. Гэты корм вельмі добры, але яго трэба даваць толькі сьвежым.

Ніколі ня трэба пускаць цялят у стада з авечкамі ці старою скацінай. Каль цяляты ходзяць з авечкамі, то яны будут заўсёды галодныя, бо авечкі вельмі нізка зьядаюць траву і цялятам нічога не застаецца на пашы. Разам з каровамі цяляты таксама не пад'ядаюць. Пры такой пашы яны растуць вельмі дрэнна і бываюць маленькія. Праўда, на хутарох, дзе паша добрая і скаціны пасецца мала, цалят можна пасьвіць і разам з каровамі. Авёс-жа ў ліку 3-4 фунтаў на галаву цялятам трэба даваць усё лета.

Калі так гадаваць цялят, то з іх выростуць добрыя каровы.

(Горкі, с.-г. І—т). С. Журык.

# Гадоўля гусей на Беларусі.

Гадоўля гусей на Беларусі даволі пашырана. Іх трымаюць у кожнай вёсцы і ня толькі там, дзе ёсьць рэчкі ці сажалкі.

Гусі даюць пух і пер'я, якое даволі дарага цэніцца, а гэтак-жа дарагое мяса і сала.

У даваенны час значны лік нашых гусей знаходзіў рынак у Нямеччыне. Вывозіліся гусі бітыя і жывыя.

Ад часу вайны да апошняга году вываз гусей за межы Беларусі амаль зусім спыніўся. Гэтаму перашкаджала шмат прычын—як абядненьне нямецкага рынку, чыгуначныя перашкоды Польшчы і г. д.

Калі ў даваенны час вывозілі гусей на суму каля 4 міліёнаў руб., дык у мінулым годзе вывезьлі 18 ваг. гусей на суму каля 300.000 руб. Трэба спадзявацца, што з кожным годам вываз гусей за межы Беларусі будзе ўсё павялічвацца.

Наш селянін прыкмячае, што ў апошнія гады трымаць гусей на продаж ёсьць большы рахунак у параўнаньні нават з сьвіньнямі і каровамі.

Калі карову трэба гадаваць 3-4 гады пакуль яна стане каштоўным таварам, дык гусь вырастае ў вадно лета. З другога боку, мы бачым, што ў апошнія гады рагатая скаціна цэніцца ніжэй, чым да вайны. Напрыклад, калі карова ў 1914 годзе каштавала 50-60 руб., дык у мінулую восень за карову бралі 30-40 руб., тады як цана на гусей значна павялічылася. Удаваенны час 1 пуд бітых гусей каштаваў 5-6 руб., летась прадавалі па 9-12 руб.

У той час, калі за карову цераз 3-4 гады магчыма ўзяць 30-40 р., за 20-25 штук гусей на працягу паўгода можна атрымаць 50-60 руб. Такім чынам мы бачым, што гадоўля гусей для рынку мае добры рахунак.

Зразумела, што наша сялянства прымеціла гэты рахунак, і гадоўля гусей з кожным годам пашыраецца. Неабходна толькі, каб Аддзелы Дзяржаўнага Гандлю пачыналі-б закупку гусей з восені, а не пасьля каляд, калі гусей амаль што няма. З другога боку неабходна, каб да гэтай справы былі прыцягнуты такія ўстановы, як с.-г. коопэрацыя.

У канцы ня лішнім будзе адзначыць, што ў нас з кожным годам пашыраюцца, так званыя, кітайскія гусі, якія больш пладавіты і выціскаюць нашых звычайных гусей.

Кітайскія гусі даюць мала сала і дрэннае мяса. Апрача гэтага, жыды лічаць кітайскіх гусей трафнымі і ня ўжываюць іх. Жыды-ж у нас зьяўляюцца галоўнымі спажыўцамі гусей.

З другога боку, кітайскія гусі і нават мешанцы (гэбрыды) зьніжаюць якасьць нашых гусей на замежных рынках. Сялянам лепш разводзіць простых гуесй.

К. Іоселевіч

# Вэтэрынарыя.

## Як ратаваць уздутую жывёлу.

Бадай што ня знойдзецца такое вёскі на Беларусі, дзе-б праз год ніводная жывёліна ня згінула ад уздуцьця.

Найчасьцей гэтае здарэньне бывае ўлетку, калі скаціна ходзіць па маладой канюшыні, альбо калі пагода падчас пашы стаіць сырая і на дварэ йдуць дажджы. Тады таксама можа ўздуць жывёлу і буйная маладая грэчка, і сьвірэпка, нават выка, бурачнік, капусьнік і інш, асабліва калі зялёны корм быў звалены ў кучу і прыпарыўся. Зімою гэтае няшчасьце здараецца радзей і тады ўздуцце найчасьцей бывае ад папсутага, гнілога корму, альбо калі жывёла залішне зьесьць нават сухога корму, мукі, ці збожжа альбо гороху. Адным словам, усё можа пашкодзіць, калі скаціна дападзе да корму галодная і аб'есца.

*Адзнакі* ўздуцьця вынікаюць найбольш раптоўна і зазначаюцца пераважна з левага боку ў жывёлы. Ад лішняга і нездаровага корму ў жываце зьбіраюцца газы, і вось яны расьпіраюць корове трыбух. Трыбух хутка павялічваецца і скацінна замалым не ў вачох таўсьцее, левая пахвіна ад газаў робіцца роўнай з клубамі,—а часамі нават і вынірае над імі. Калі пастукаць па абдутай пахвіне пальцамі, то здаецца, што стукаеш па бубне. Скаціна робіцца неспакойнаю; спачатку яна сапе, часта і борзда дыша, а пад канец дыхае ўсё вальней і вальней; кроў набягае да галавы, вочы чырванеюць і праз некалькі мінут жывёла можа кончыцца, калі ня даць ёй помачы.

*З лячэньнем* уздутае жывёлы *трэба сьпяшацца*, бо ўздуцьце йдзе хутка. Тут з паратункам ня можна траціць ані аднэй мінуткі. Іншы раз і дзьве мінуткі могуць зрабіць, што скацінка або паправіцца, або згіне. Перш за ўсё патрэбна старацца *выпусьціць якім-колечы спосабам газы-дух*, які сам ня можа выйсьці з сарэдзіны жывата. Дзеля гэтага альбо 1) ратуюць жывёлу *харчаводнаю трубкаю*, альбо 2) прабіваюць трыбух *трыканцікам* (троакарам) і толькі калі ні трубкі ні трыканціка пад рукамі няма—ратуюць сканцінку звычайным ножыкам (сьцізорыкам). Што-ж тычыцца лякарстваў, то пры вострым уздуцьці жывёлы яны вельмі мала або і зусім не памагаюць, а толькі зводзяць час (аб лякарствах мы пагаворым у канцы).

### Як ратаваць трубкаю.

Пэўна, што шмат хто бачыў гэткую трубку. Гэта доўгая, гібкая, найчасьцей з дроту скручаная трубка іканчар у яе гладкі, часамі з абручком валавяным або цыновым. Да гэтае трубкі дадаюць яшчэ паленца (расчыняць рот у хворай жывёлы) з двома шнуркамі, якімі яно ўвязваецца за рогі; і яшчэ тонкі, але моцны сталёвы дрот—пратыкаць трубку.



Так устаўляецца трубка ў горла жывёле. З правага боку трубка з паленцам і сталёвы дроцік.

Уздутую корову ставяць пярэднімі нагамі на вышэйшае месца, альбо на паваленыя дзьверы; паленца кладуць ёй у рот паміж зубоў так, каб зробленая ў паленцы дзірка прыходзілася якраз проці горла, і шнуркамі прывязваюць паленца да рагоў. Праз дзірку ў паленцы ўпіхаюць скаціне ў горла трубку аж па самы муштук, так што другім канцом яна даходзіць аж да трыбуха (гл. мал.). Дух (газ), што ў трыбусе, пачынае выходзіць праз трубку вон. Іншы раз ён прэць так моцна, што захапляе з собою зьедены корм, гоніць яго ў трубку і затыкае яе; дух перастае йсьці. Тады дротам трэба прапіхаць трубку і прачышчаць яе ў сарэдзіне.



Так ня можна ставіць жывёлу пры ратаваньні трубкаю, бо канец яе ўвабьецца ў зьедзены корм, які ня пусьціць выходзіць паветра.

Так павінна стаяць жывёлла пры ратаванні яе трубкою праз горла, каб канец ея прыхдзіўся ў паветра ў трыбусе.

**Як прабіваць трыбух трыканцікам.**

Трыканцікам, альбо троакарам, завуць трохкантовую (на канцы) швайку, уложаную ў ценкую медзяную трубку так, што з трубкі відаць толькі востры трохкантовы канец.

Каштуе гэткі струмант руб. $1^1/_2$-2. Дзіву даешся, чаму гэта гаспадары па вёсках так рэдка маюць яго. Рэч, здаецца, і ня вельмі ўжо такая дарагая, а выгаду дае вялікую і захоўвае ад вялікае страты. Нават гэткую швайку спрытны сьлёсар ці каваль патрапіць зрабіць і ў вёсцы. Толькі трэба пільнаваць, каб трубка была добра выгладжана і каб шчыльна прыставала да вострага канца швайкі, бо йначай можа прашкаджаць падчас прабіваньня скуры.

Каб прабіць гэткім трыканцікам уздутую жывёлу, швайку не вымаюць з трубкі, але разам з трубкаю *ўганяюць у левую пахвіну*. Выбраўшы на ёй найбольш выпучнае месца,—якое заўжды прыходзіцца на роўнай адлегласьці ад задняга рабра



Трыканцік: швайка уложана ў трубку і дадатковая трубка.

(сьпераду), паясьніцы (зьверху) і клубу (ззаду), якраз пасярэдзіне так званага трыкутніка, што ляжыць паміж гэтымі косткамі,—настаўляюць у гэты пункт (А) трыканцік і, удараючы моцна далоняю зьверху па чаранку швайкі, уганяюць трыканцік разам з трубкаю ў трыбух аж па самы чэран.

Уганяючы швайку, трэба так яе накіраваць, як быццам канец яе меўся выйсьці з правага боку жывёлы зараз за яе пярэднюю праваю лапаткаю (уніз і ўперад) (гл. мал.). Месца, у якім прабіваюць скуру перад тым выстрыгаюць і абмываць карбоўкаю.




Левая пахвіна жывёлы знадворку А—кружок на левой пахвіне паказвае месца, куды ўбіваецца трыканцік альбо нож.




Выгляд чэрава коровы з сярэдзіны, 1—костка паясьніцы, 2—левая нырка, 3—трыканцік загнаны ў трыбух, 4—левы бок чэрава, 5—правая нырка, 6—правы бок чэрава з кішкамі.

Калі трыканцік разам з трубкаю будзе загнаны аж па чэран у трыбух, трубку прытрымоўваюць леваю рукою, прыціскаючы яе да скуры, а праваю выцягваюць (пакручваючы) швайку. Трубка, значыць, застаецца ў баку хворай жывёлы і праз яе выходзіць дух. Каб трубка не захрасла і не заткнулася з жывата, яе трэба часта прапіхаць пратычкаю альбо тэю самаю швайкаю. Па выхадзе духу, трубку патрэбна заставіць у жываце скаціны мінутна 15-20 і не даваць пакуль што жывёле корму.

Каб адразу можна было ратаваць некалькі штук жывёлы, заўсёды патрэбна мець да аднэй швайкі некалькі трубак.

Ніколі ня трэба палохацца прабіваць уздутую жывёлу, бо прабітая дзірка хутка сама загоіцца. Заграніцаю, напр., кожны пастух павінен умець зрабіць гэткае прабіваньне, чаму там мы ня бачым страт жывёлы ад уздуцьця. А ў нас,—што ні вёска, то кожны год страта, дзякуючы таму што апрача вэтэрынара ніхто не праб'е жывёлу; а як вядома ўздуцьце—такая наглая хвароба, што часамі вэтэрыанар не пасьпее нават падыйсьці на поле, ня толькі здалёк прыехаць, як жывёла канчаецца. Дзеля гэтага абавязкова патрэбна кожнаму гаспадару самому навучыцца, як ратаваць уздутую жывёлу і навучыць гэтаму пастуха.

Часам бывае, што скаціну ўздуе дзе-небудзь у полі, а пад рукамі нічога няма, ні трубкі, ні трыканціка, ні іншых лекаў, тады нічога не застаецца, як увагнаць у левую пахвіну жывёлы цалі на дзьве-тры звычайны *ножык* (нават сьцізорык). Ножык належыць перакруціць наўпоперак дзіркі ў пахвіне і так трымаць яго, каб дух мог выходзіць каля ножыка. Або калі знойдзецца пад рукамі якая-небудзь дудачка хоць-бы цыбук ад люлькі, ці што-небудзь падобнае,--ножык можна выняць з дзіркі, а туды ўлажыць гэткую дудачку.

І трыканцік, і ножык павінны быць чыстымі. Мала іх абцерці палою: трэба іх уперад вымыць з мылам або з содаю, ці абмыць карболаваю вадою і толькі тады ўжываць.

**Лякарствы ад узьдуцьця.**

Даўней, пакуль яшчэ ня было трыканціка і трубак, уздуцьце прабавалі лячыць рознымі лякарствамі. Але цяпер мала хто адважыцца абыйсьціся аднымі лякарствамі і то толькі тады, калі жывёлу ўздувае памалу, бо розныя парашкі і кроплі вельмі пры гэтым ненадзейныя і толькі зводзяць час.

Аднака, сярод лякарстваў найлепшымі лічацца пры ўздуцьці: *амоніак, вапенная вада і вада з мылам.*

Амоніаку (нашатырнага сьпірту) бяруць лыжку на бутэльку вады і ўліваюць хворай жывёле па бутэльце праз кожныя 15 мінут.

Вапну таксама распускаюць у вадзе і, калі яна адстоіцца, вапенную ваду зьліваюць і даюць хворай жывёле па бутэльцы праз кожныя 15 мінут.

Добра намыльную ваду даюць за адзін раз па бутэльцы, праз 15-20 мінут паўтараючы гэткую дозу.

Даючы лякарствы, патрэбна ўважаць, ці ўздуцьце адыходзіць, ці не, і залежна ад таго або перастаюць даваць лякарствы, або шукаюць іншае парады.

Даўшы лякарствы, карысна бывае залажыць у рот хворай тоўстае перавясла, хрыбет і чэрава абліваць халоднаю вадою і разьмінаць левую пахвіну, пацягваць штомінуты хворую за язык і паволі ганяюць яе.

На вёсцы шмат чаго робяць уздутай жывёле, але ўсё гэта ня толькі не памагае хворай, але дарэмна толькі мучыць яе і без патрэбы калечыць. Апрача трыканціка і харчаводнае трубкі няма лепшых спосабаў змаганьня з уздуцьцем жывёлы.

Нарэшце, трэба памятаць, што *ўздуцьце лёгка варочаецца йзноў* і што пасьля яго ў жывёлы баліць жывот.

Дык вось, калі ўдасца адратаваць хворую скаціну,—пільнуйце яе добра і праз дзень-два давайце ёй есьці пакрысе.

Вэтэрынар **І. Н. Серада.**

# САДіГАРОД

## Рыхтуйцеся да закладкі садоў.

У найбліжэйшыя 2-3 гады нашы пладовыя школкі пачнуць пашыраць прышчэпы яблынь, ігруш і г. д., здавальняючы патрэбы сялянства.

Падрыхтоўка плошчы пад сад павінна пачацца за год, а лепей за 2 гады раней.

Вада грунтовая павінна быць ня бліжэй ад 2 мэтраў (3 аршыны), а яшчэ выгадней да 3-4 мэтраў ($4^1/_2$-6 аршын) ад паверхні зямлі.

Маючы мэту праз год, а можа праз два высаджваць прышчэпы, плошчу займаюць бульбай, буракамі, пад што кладзецца ўвосень гной да 2000-3000 пуд. на 1 гэктар (блізка 1 дзесяціны). Калі гною няхват, трэба высяваць лубін з парашкамі і заворваць. Гэткім чынам зямля вырабіцца і будзе мець сілу добра гадаваць высаджаныя прышчэпы. Ніколі не садзіце сад на іржышчы.

Дрэвы ў школках вельмі добра даглядаюцца, чаму па высадзе ужо ў сад яшчэ лепш павінны даглядацца.

Яблыні трывалых сартоў на нашых лясных дзічках дажываюць да 70-80 год, а грушы больш 100.

Пры выгодных умовах асобныя гатункі яблынь, як, напрыклад, антонаўка, ружовае і інш. у 30-35 год пашыраюць свае кароны да 10 мэтраў (15 арш.).

Згодна прапановы Горацкай дасьледчай станцыі новыя сялянскія сады закладаюцца ў нашай ваколіцы (каля Горак) на 10 мэтраў (рад ад раду).

Вельмі цікавае зьявішча ў гэтым напрамку мы бачым пасьля вайны ў Нямеччыне. Яблынавыя сады садзяцца на 15-20 мэтраў дрэва от дрэва; гата знача на 20-30 аршын. Заўсёды паміж дрэвамі будзе магчымасьць карыстацца плошчай і займаць яе гароднінай, ягаднікамі і г. д. Апрача таго, на выпадак вайны і галадух маняцца садзіць у садох бульбу, сеяць пшаніцу.

Што тычыцца часу высадкі дрэў, то трэба дбаць аб тым, каб прышчэпы высаджваць раней восеньню, нават калі яшчэ трымаецца трохі пабурэўшы ліст. Ліст абрэзваюць.

Пасьля пасадкі блізка каля штамба накідваецца курганчыкам зямля ў 35 сантымэтраў (6-8 вяршкоў), маючы мэту бараніць карэньня ад холаду; вясной курганчык разгортваецца.

На цяжкіх глебах дрэвы выгадней будзе садзіць веснавою парой.

Абрэзка кароны першай вясной з найбольшым пасьпехам магчыма тады, калі прышчэпы будуць высаджаны ўвосень.

Прышчэпы трэба высаджваць квадратам.

Спачатку трэба паставіць аструганы кол у 12 сант. (3 вяршкі) таўшчыні і ўбіць яго ў зямлю. Прымаючы пад увагу, што ў час пасадкі зямля павінна быць добра выраблена (пасьля бульбы), астаецца толькі выкапаць невялікую ямку дзеля таго, каб зьмесьціць толькі карэньня прышчэпкі. Капаць глыбокія ямы ў нашых выпадках мы лічым не патрэбным і нават шкодным. Дрэва трэба зьмесьціць з поўначы, каб з поўдня кол затрымліваў прыпёк сонца.

Першыя 5-8 год даглядаюць, каб штамб быў добра прыцягнуты да кала. Блізка карэньняў падкідваюць кампост, альбо гной (штогод) і з вясны перакапваюць.

У першыя гады паміж дрэвамі часта кладуць гной і садзяць бульбу, буракі, капусту, гарох і іншыя бабовыя расьліны (апрача канюшыны); карысна заворваць лубін. Ніколі ня сейце жыта, пшаніцу, авёс у садзе.

У працягу 3-4 год пры гэткім доглядзе сад вельмі шпарка пойдзе ўрост.

Шмат садоў, заложаных у 1922 і 1923 г.г. у ваколіцы Горак пад нашым доглядам сьведчаць аб значным дасягненьні ў гэтым напрамку. Здаецца, што па буйным узросту дрэвы высаджаны нібы 5-6 год.

Сёлета маладыя сады густа зацьвілі, але *плодазавязь* сарвалі, чаму ўзрост штамба яшчэ павялічыцца.

**М. Бурштэйн.**

(Горацкая дасьледчая станцыя).

---

# Шкоднікі саду. (Яблынавы доўганосік).

Яблынавы доўганосік або кветаед. *Доўганосік—маленькі й мала прыметны* буры жучок з двумя касымі пасачкамі на крыльлях і доўгім носікам.

Доўганосік шкодзіць галоўным чынам яблынам. Ён вясною ўзлазіць на дрэва і працінае неразгарнуўшыяся пучкі будучых кветак або лісьцяў і кладзе туды свае яечкі. Дзён праз 5-7 з гэтых яечак вылупліваюцца маленькія белыя чарвячкі (вусені), якія выядаюць будучую кветку; загэтым кветка, не пасьпеўшы разгарнуцца ці закрасавацць, жоўкне, сохне і звальваецца на зямлю разам з чарвячкамі.




1. Вусень доўганосіка. 2. Мяшочак (кукончык) вусеня. 3. Жук-доўганосік. 4. Яго натуральная велічыня. 5. Здаровая кветка яблыны. 6. Кветкі паедзеныя доўганосікам.

У канцы траўня з вусеняў выходзяць маладыя жучкі доўганосікі, якія да самай восені жывуць на дрэвах, ядуць плады і завязь будучых пучкоў.

Доўганосік яблыні вельмі распаўсюджан у нашых садох. Яго чарвячкі штогод зьнішчаюць ня менш паловы цвету на садзе, а знача і ўраджаю.

*Барацьба з доўганосікам* можа весьціся некалькімі спосабамі. Даволі пашыраным трэба лічыць атрасаньне доўгоносіка з дрэва вясною да распусканьня пучкоў. Спаўняецца гэта зраньня пакуль жучкі яшчэ не сагрэты сонцам і слаба трымаюцца на дрэвах. Пад дрэвам сьцелюць брызэнт або дзяругу і трасуць дрэва рукамі. Можна стрэсьці жучкоў і лёгкім пастукваньнем па гальлі дрэва драўлянай доўбнячкай. Жучкі падаюць на дзяругу. Далей іх зьбіраюць і паляць.

*Барацьбою з доўганосікам можа* быць *апрыскваньне дрэва разьведзенай у вадзе вапнай* (вапеннае малако). Для прыгатаваньня вапеннага малака бяруць 600 гр. ($1^1/_2$ фун.) сьвежа-гашанай вапны і 600 гр. ($1^1/_2$ фун.) гліны на вядро вады. Перш распушчаюць у вадзе вапну, а далей прысыпаюць гліну і добра разьмешваюць (каб ня было грудачак) і даліваюць да меры ваду.

Апрыскваньне дрэва спаўняецца за 7-8 дзен да красаваньня саду. Пры апрыскваньні прыглядаюцца, каб вапеннае малако пакрыла ўсе пучкі будучых кветак і тым захавала бы іх ад доўганосіка.

Лавіць доўганосікаў можна і, так званымі, паясамі на ствалох дрэва. Паясамі могуць быць саламяныя перавяслы, якімі і абкручваюць ствол дрэва ў жніўні месяцы. К зіме доўганосікі набьюцца ў перавяслы. У лістападзе і сьнежні перавяслы перарэзваюць нажом і асьцярожна кладуць на падасланую дзяругу, а далей салому перавяслаў паляць разам з жучкамі.

К. Хабэнка.

---

# Баярышніца і златагузка.

*Баярышніца*—гэта даволі вялікі белы матылёк з чорнымі пасачкамі на крыльлях. Ён зьяўляецца ў нас у канцы траўня ці пачатку чэрвеня месяца. Днём баярышніца лятае, і на паверхні лісьця пладавых дрэў кладзе кучкамі жоўтыя яечкі. У кожнай гэткай кучцы ляжыць ад 30 да 100 і больш яечак. Праз два тыдні з іх вылупліваюцца маленькія, мала прыметныя вусені шэра-жоўтай афарбоўкі, якія і пачынаюць выядаць мякаць ліста, пакідаючы толькі адны жылкі. У працягу першага лета вусені баярышніцы растуць вельмі марудна і ядуць мала, чаму і шкоды вялікай у першы год свайго жыцьця ня робяць. Увосеньжа, як толькі пачнуцца халады, вусені з недаедзенных бурых лістоў робяць сабе агульныя гнёзды, зьвязваючы іх па два-тры павуцьцём; у гэтых гнёздах, прычэпленых павуцінаю да гальля, вусені зімуюць.

*Златагузка*—сьнежна-белы матыль. Зьяўляецца ў адзін час з баярышніцай. Лятае яна ўначы, а яйкі кладзе гэтак сама, як і баярышніца, на лістох пладовых дрэў (гл. мал. 1, 2 і 3 на 29 стар.).

Шкодзяць саду вусені баярышніцы і златагузкі вясною, калі павыходзяць пасьля зімы з гнёздаў. Выходзяць яны вельмі рана і перш накідваюцца на неразгарнуўшыяся пучкі, а далей, як дрэвы распусьцяцца, нішчаць цьвет і маладыя лісьцікі.

Растуць вусені вельмі скора. Дарослы вусень баярышніцы мае каля 1 вярш. даўжыні. Ён пакрыт рэдкімі, кароткімі валаскамі; зьнізу і на бакох мае буравата-шэрую афарбоўку; сьпіна чорная з двумя жоўтавата-чорнымі пасачкамі.

Дарослы вусень златагузкі крыху карацейшы; ён бурае афарбоўкі, з двумя чырвонымі і двумя белымі падоўжнымі жылкамі і параю чырвоных барадавак на канцы цела (стр. 29).

Хутка пасьля красаваньня саду дарослыя вусені закручваюцца ў мяшэчкі, з якіх у канцы траўня ці пачатку чэрвеня выходзяць раней названыя матылькі.

Дзеля барацьбы з вусеньню, трэба зьбіраць і нішчыць іх гнёзды. Найлепш гэта рабіць позна ўвосень, як спадзе ліст. Гнёзды здымаць можна рукамі ці спэцыяльнымі нажнамі (сякатарамі), насадзіўшы іх на доўгі кій.




1. Матыль баярышніца. 3. Машэчак (кукончык) вусеня. 4. Вусень.

Калі з якой-небудзь прычыны гнёзды вусеняў ўвосень ня зьняты, то зрабіць гэта трэба рана вясною, або апрыскаць дрэвы растворам „парыскае зелені“. Апрыскваюць ня менш двух раз. Першы раз—за тыдзень да красаваньня саду, а другі—зараз пасьля красаваньня.

Для прыгатаваньня раствору бяруць 13 грам (3 залатнікі) „зелені“ (дробны зялёны парашок падобны да фарбы) і 25-35 грам. (6-8 залатн.) сьвежа-гашанай вапны. „Зелень“ трэба ўсыпаць у пасудзіну, даліць $^1/_4$ шклянкі вады і добра разьмяшаць кійком. У другой пасудзіне разьмешваюць вапну з вадой, а потым абодвы растворы зьліваюць ў адну пасудзіну і даліваюць вады да 1 вядра.

Парыскую зелень можна купіць у с.-г. магазынах і складах Наркомзему альбо ў аптэках. Залатнік зелені каштуе ня больш 1 кап. Абходзіцца з зеленьню трэба вельмі асьцярожна, бо яна—моцная атрута.

**К. Хабэнка.**

# Ліставая блыха яблыны, або мёдавіка.

Ліставая блыха лічыцца аднэй з шакдлівых мошак саду. Дарослая блыха—маленькая, ледзьве прыметная кузурка. Яна мае травяна-зялёную афарбоўку, сьветлыя крыльля і жаўтаватыя ножкі. А другой палове лета афарбоўка дарослых блошак крыху мяняецца: галава яе цямнее, а на сьпіне зьяўляюцца жаўтаватыя кропкі, што і наддае ёй жаўтавата-зялёны колер.

Чарвячкі (вусені) мёдавіка вельмі шкодзяць яблынам. Вясною, як толькі выйдуць з яечак, яны асяляюцца на ножках кветак ці на маладых лісточках дрэва і высмоктваюць з іх усе сокі. Ад гэтага кветкі вянуць, а лісьця зморшчваюцца, засыхаюць і адвальваюцца. Лісьця, на якіх сядзяць блохі, заўсёды пакрыты ліпкай і салодкай сьлізьзю (чаму блаху і завуць мёдавіком).

У канцы траўня у чарвячкоў зьяўляюцца невялічкія крыльля, якія тырчаць у бакі. Якраз у гэты час чарвячкі пераходзяць на ніжнія бокі лісьця, дзе і вырастаюць ужо ў дарослых крылатых блох, якія кладуць свае яечкі на маладых галінках дрэва (каля пучкоў), у шчылінах кары і г. д. Адкладваньне яечак цягнецца да познай восені. Яечкі вельмі маленькія, кругла-прадаўгаватыя і афарбованы ў белы або чырвоны колер.



1. Зімовае гняздо златагузкі. 2. Вусень. 3. Матыль залатагузка.

Пачынаць барацьбу з ліставою блыхою трэба з раньняй вясны і прадаўжаць да позьняй восені.

Яечкі зьнішчаюць, апрыскваючы дрэва растворам жалезнага купаросу за 2-3 тыдні да распусканьня пучкоў. Дзеля прыгатаваньня раствору на вядро вады бяруць 600 гр. ($1^1/_2$ фун.) жалезнага купаросу і 150 грам. жытняй мукі. Купарос распускаюць у 3-х квартах гарачай вады у драўлянай пасудзіне, а з мукі гатуюць вадзяністы клей. Далей раствор купаросу і клей перамяшаць і даліць вады да 1 вядра.

Чарвячкоў-жа зьнішчаюць, апрыскваючы дрэва разьведзенай газай за 2-3 дні да распусканьня пучкоў (калі пачынаюць паказвацца белыя або шэра-зялёныя канцы лісьцікаў ці красак). У гэты момант з яечак мёдавіка вылупліваюцца чарвячкі і апрыскваньне дасягае свае мэты. Каб прыгатаваць эмульсію, трэба на 1 вядро вады ўзяць 100 гр. ($^1/_4$ ф.) мыла і 400 гр. (1 ф.) газы, наліць у чугун $^1/_2$ вядра вады і яе загатаваць. Далей, у гэту гарачую ваду пакласьці мыла і, узьбіўшы яго венікам, уліць газу і ўсё разам перамяшаць на працягу 15-20 мінут. Потым да атрыманага саставу даліць патрэбную да 1 вядра ваду.

У позную восень, як спадзе ліст, сад зноў трэба апрыскаць растворам жалезнага купаросу так, як гэта рабілася вясною.

К. Хабэнка.

# Зьнішчайце гародную блыху.

Гародныя блохі, або блашакі зьяўляюцца шкоднікамі нашых гародаў. З году у год яны нападаюць на капусту, бручку, буракі, турнэпс, рэдзьку, рэпу, радыску. Кожны год гароднік думае, як яму адратаваць свой гарод ад гэтых шкоднікаў.

Каб барацьба з гароднай блыхою была пасьпешнай, трэба ведаць яе жыцьцё.

Капусныя блохі — гэта невялічкія жучкі (яны здатны скакаць). Яны асабліва рухавы і шкодны ў ясны сонечны дзень. Ёсьць блошкі чорныя блішчастыя; у іншых на сьпіне (па надкрыльлях)жоўтыя зьвілістыя пасачкі.

Перазімаваўшы пад грудкай зямлі, альбо сярод лісьця ці ў шчылінах гародніх будынкаў, блошкі прачынаюцца раньняй вясною. Перш яны ядуць дзікія расьліны (сьвірэпку, торбачнік палявы і інш.), а як толькі ў грунт пасаджана расада альбо ўзыходзяць засевы гародных расьлін, яны адразу накідваюцца на іх і ядуць лісьця. Ад гэтага на лістох зьяўляюцца дзірачкі (гл. мал); лісьця пачынаюць жаўцець і сохнуць. Гароднікі іншы год па два ці тры разы садзяць расаду ці робяць новыя засевы, каб толькі атрымаць ураджай.

У канцы траўня ў пачатку чэрвеня жучкі пачынаюць класьці на лістох сарнякоў і гародніх расьлін яечкі.



Ліст паедзены гароднаю блыхою.

З яечак выходзяць чарвячкі, якія ўядаюцца ў мякаць ліста і жывуць там, робячы у ім ходы. Чарвячкі некаторых блошак жывуць на карэньнях расьлін (турнэпс). Як толькі чарвячок вырасьце, ён выходзіць з ліста ці кораня і закопваецца ў зямлю, дзе ўжо ператвараецца ў дарослага жучка і дзе чакае новае вясны.

Гэткім чынам, жук-блошка, як і шмат іншых кузурак, перажывае 4 выразных зьмены: *яечка, чарвячка, мяшэчка* (*кукончыка*) і *дарослага жука*.

Дарослы жук найбольш шкодзіць вясною, чаму ўсю ўвагу дзеля барацьбы з ім трэба зьвярнуць у гэты час. Як-жа змагацца з блошкаю?

1) Зьнішчайце сарнякі (торбачнік палявы, сьвірэпку, дзікую рэдзьку, і інш). Яны даюць прытулак перазімаваўшым блошкам. Імі-ж блошкі і кормяцца ў працягу 1-1$^{1}/_{2}$ м-цаў, пакуль высадзяць расаду ці зьявяцца ўсходы гародніх расьлін.

2) Захоўвайце расаду ад блыхі, робячы расаднікі над зямлёю. (Расаднікі гэтыя робяць на слупох у 1$^{1}/_{2}$-2 арш. вышынёю).

3) Адцягвайце засеў і высадку расады як найдалей, бо блошак найбольш у красавіку і траўні. Рэпу-ж добра бывае садзіць у сярэдзіне чэрвеня.



А. Розныя віды гароднай блыхі. А. Натуральн. велічыня блошкі.

4) Расаду капусты на грады трэба садзіць здаровую і па магчымасьці ў сырую пагоду.

5) Расьліны, на якія ўжо напала блыха, апрысквайце вадою.

6) Выбірайце расьліны тых сартоў, якія менш альбо зусім не баяцца блыхі. Капуста-Браунгшвэйгская, Дзітмарская, Сабураўка; або: Зэніт, Штэйнкорф; з турнэпсу-Банкгольм і Масляны жоўты васкавы; з рэпы—Пятроўская, Фінляндзкая жоўтая, Круглая чорная; з бручкі—Швэдзкая, Вільгельм, Краснасельская.

**Энтомолог Бранцаў.**

Станцыя барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Менск, Савецкая вул. № 33/34.



# ЗЕМЛЯБУДАЎНІЦТВА

## Аб зямельнай нястачы на Беларусі.

На Беларусі ёсьць шмат гаспадарак, зямельныя надзелы якіх ня толькі не даюць магчымасьці выкарыстаць працу ўсіх работнікаў сям'і, але нават не даюць і неабходных сродкаў для пражыцьця. Адначасна з гэтым ёсьць вялікія гаспадаркі, дзе ўвесь надзел не апрацоўваецца сіламі сваё сям'і. Цэнтральны Выканаўчы Комітэт Беларусі ў лютым месяцы г. г. даручыў Наркомзему вынайсьці зямельны фонд для таго, каб надзяліць безьзямельныя і малазямельныя гаспадаркі зямлёю па такой норме, пры якой можна было-б пражыць сям'і гаспадара. Для гэтага Наркомзему даручана было ўстанавіць нормы працоўнага землякарыстаньня для надзелу зямлёю дробных гаспадарак, а таксама вызначыць і найбольшыя нормы, звыш якіх ні адна гаспадарка ня можа мець зямлі *).

Плошчамі, з якіх можна ўзяць патрэбны зямельны фонд зьяўляюцца: 1) участкі ляснога фонду, дзяржаўнай зямельнай маемасьці, якія могуць быць залічаны ў зямельны фонд; 2) абрэзка тых гаспадарак, якія маюць зямлю звыш вызначанай нормы (у сярэднім звыш 12 дзесяцін); 3) усе іншыя землі, якія па тым ці іншым прычынам да гэтага часу нікім не скарыстоўваліся і могуць быць без вялікіх страт на мэліорацыю скарыстаны ў сельскай гаспадарцы (гэта так званыя кінутыя землі).

Цяпер Наркомземам ужо праведзен учот усіх зямель, якія можна разьмеркаваць безьзямельным і малазямельным сялянам, а таксама зроблен учот і тых гаспадарак, якія трэба надзяліць зямлёю.

У выніку гэтага ўчоту мы маем такія лічбы па акругах:

| № парадкавы | НАЗВА АКРУГІ | Лік гаспадарак, якія трэба надзяліць да нормы | Колькі гаспадарак падлягае абрэзцы | Якая лясная плошча пералічваецца ў зямельны фонд | Колькі дзесяцін зямлі можа даць дзярж. маемасьць | Колькі дзесяцін дасьць абрэзка | Колькі ёсьць кінутых зямель | Колькі ўсяго дзесяцін будзе ў зямельным фондзе | Колькі трэба зямлі | Колькі не хапае зямлі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бобруйстая. . . | 30.558 | 4.052 | 10.070 | 17.546 | 31.703 | 7.485 | 66.804 | 98.702 | 31.898 |
| 2 | Барысаўская . . | 28.502 | 1.956 | 36.843 | 24.888 | 22.544 | 4.315 | 88.580 | 98.496 | 9.916 |
| 3 | Віцебская . . . | ;29.689 | 4.347 | 9.758 | 2.464 | 26.753 | 4.527 | 43.502 | 79.456 | 35.954 |
| 4 | Калінінская. . . | 23.567 | 2.587 | 19.502 | 13.815 | 17·827 | 1.767 | 52.567 | 63.094 | 10.527 |
| 5 | Магілеўская . . | 17.465 | 3.406 | 8.440 | 1.261 | 20.117 | 4.864 | 34.682 | 52.186 | .17.504 |
| 6 | Мазырская . . . | 29.579 | 1.116 | 74.546 | 18.202 | 10.536 | 9.916 | 113.300 | 101.155 | — |
| 7 | Менская. . . . | 26.131 | 3.851 | 9.118 | 12.693 | 34.166 | 5.881 | 61.858 | 76.514 | 14.656 |
| 8 | Аршанская. . . | 21.505 | 4.208 | 10.300 | 5.063 | 21.086 | 17.66 | 38.215 | 44.404 | 6.189 |
| 9 | Полацкая . . . | 25.282 | 858 | 17.437 | 3.283 | 7.345 | 7.030 | 35.131 | 77.447 | 42.316 |
| 10 | Слуцкая. . . . | 22.128 | 3.290 | 23.654 | 2.218 | 26.994 | 4.113 | 56.979 | 54.710 | — |
| | УСЯГО . . | 254.409 | 29.671 | 219.704 | 101.433 | 219.071 | 51 664 | 591.872 | 746.164 | 154·288 |

*) Аб зямельных нормах гл. „Плуг“ № 4, стар. 34.

Як відаць, з агульнага ліку 672.576 гаспадарак рэспублікі, 38% або 254.409 гаспадарак трэба надзяліць альбо данадзяліць зямлёю. Гаспадарак-жа, зямельная плошча якіх перавышае норму, мы маем толькі 4,4% (29.671).

Для таго, каб данадзяліць 254.409 гаспадарак да найменшай нормы, трэба мець 746.164 дзес. Маем-жа мы для гэтага зямельны фонд: 1) плошчу з-пад лесу 219.704 дзес.; 2) ад дзяржаўнай зямельнай маемасьці 101.433 дзес.; 3) ад абрэзкі буйных гаспадарак 219.071 дзес. і 4) кінутых зямель 51.664 дзес.; *усяго 591.872 дзес.* Такім чынам, зямельная нястача будзе складаць 154.288 дзесяцін.

Праўда, пры правядзеньні работ на мясцох зямельная нястача будзе зьмяншацца, бо як у малазямельных, так і ў шматзямельных напэўна лік зямлі зьменшан. Напрыклад, у Полацкай акрузе нястача можа зьменшыцца на палову, у Аршанскай яна будзе невялікай, а ў Бабруйскай яна павінна зусім зьліквідавацца; у Слуцкай і Мазырскай акругах, як бачым з табліцы, маецца патрэбны лік зямлі. Такім чынам, пры правядзеньні работ, зямельная нястача па ўсёй Беларусі павінна зьменшыцца больш чым на палову, але ўсе-ж такі ў некаторых акругах яна будзе.

Зьменшыць яе зусім мы маглі-б толькі за кошт лясного фонду альбо за кошт тых зямель, якія мы атрымаем у выніку мэліорацыі. Ала спадзявацца на большае адшуканьне зямлі з лясного фонду мы пакуль што ня можам, бо лясная гаспадарка ёсьць галоўнае наша багацьце, і яго трэба па мыгчымасьці захоўваць. Тое, што мы будзем мець у выніку мэліорацыі, патрэбна будзе дзеля ліквідацыі тэй нястачы, якія будзе павялічвацца ў зьвязку з павялічэньнем ліку насельніцтва і ліку гаспадарак у будучым. Якія-ж дадатковыя сродкі мы маем дзеля зьнішчэньня гэтай зямельнай нястачы?

Першае—зямельная нястача будзе зьмяншацца разам з тым, як прамысловасьць у горадзе стане павялічвацца. Тады свабодныя рабочыя рукі вёскі знойдуць сабе працу ў гэтай прамысловасьці.

Другое—зямельная нястача з кожным годам можа памяншацца пры палепшаньні спосабаў вядзеньня сялянскай гаспадаркі. Пры гэтым селянін будзе мець больш сродкаў для жыцьця, а работнікі яго сям'і знойдуць і больш працы.

Трэцім спосабам павінна зьявіцца перасяленьне сялян у другія краіны, якое ўжо пачалося. У бліжэйшыя гады нам трэба праводзіць перасяленьне так, каб зьліквідаваць гэту зямельную нястачу. Дзеля гэтага трэба перасяліць каля 12.000 гаспадарак, г. зн. прыблізна 60.000 душ. Неабходна прасіць Саюзны Урад. аб водпуску нам фонду для перасяленьня з такім разрахункам, каб у бліжэйшыя два гады азначанаму ліку гаспадарак можна было перасяліцца. П. К.

---

# ВОПРОСЫ и ОТВЕТЫ

Вопрос **тов. Тарановкча из Мозыря.**

Если в составе данного земельного общества совершенно нет безземельных граждан, но зато у одних земли не хватает до нормы, в то время как у других ее сверх нормы, то будут ли по новому Земельному Кодексу этими излишками наделяться в первую очередь безземельные граждане других обществ или малоземельные того же общества?

Ответ 1. Так как силою 124 ст. Зем. Код. земля закреплена за земельным обществом, то в этом случае в первую очередь получают землю малоземельные граждане того же общества. Если же после наделения их землею до нормы, останется еще свободная земля, то тогда возможно доприселение в данное общество новых дворов со стороны по распоряжению земельных органов силою 45 ст. Зем. Кодекса.

Вопрос **тов. Григоровича из Борисовского ОЗО.**

Могут ли районные земельные комиссии рассматривать дело в распорядительных заседаниях?

Ответ 2. На основании 200 ст. Зем. Кодекса распорядительные заседания установлены лишь для окружных земельных комиссий. Поэтому районные земельные комиссии все без исключения дела могут разрешать только в открытых судебных заседаниях.

Вопрос **Костюковичского РИК'а.**

Будет ли производиться по новому Земельному Кодексу обрезка хозяйств, получивших землю сверх нормы в порядке землеустройства при действии прежнего Кодекса?

Ответ 3. Если трудовым хозяйствам были выданы документы на отведенную им в порядке землеустройства землю, то последняя закреплена за ними в постоянное трудовое пользование со дня выдачи этих документов (ст. 124). Поэтому обрезка таких хозяйств может быть произведена только в случае признания незаконным произведенного земельными органами предоставления земли и отмены в порядке надзора вынесенных ими постановлений.

Вопрос **тов. Гончарова из Полоцка.**

Кому подсуден иск Районного Исполнительного Комитета о признании недействительною раздельной записи, надлежащим образом зарегистрированной, ввиду выяснившейся затем фиктивности семейного раздела?

Ответ 4. Такой иск подсуден районной земельной комиссии, так как Райисполком не заявляет по делу своих прав на землю, а пред'являет его, осуществляя контроль над законностью землепользования (ст. 7 Земельного Кодекса). Окружной земельной комиссии, согласно 200 ст. Земельного Кодекса, подсудны только те дела, в которых участвуют правительственные и общественные учреждения, советские и коллективные хозяйства в качестве сторон, т. е. если они заявляют свои самостоятельные права на спорную землю.

Вопрос **тов. Григоровича из Борисовского ОЗО.**

Если обрезка хозяйства произведена по нормам циркуляра № 29, служит ли основанием для пересмотра дела выработка теперь более высоких норм, указанных в циркуляре № 17—1925 г.?

Ответ 5. Издание Наркомземом нового циркуляра не является основанием для пересмотра дел, решенных при действии прежнего циркуляра. Циркуляр № 17 должен применяться по делам, не рассмотренным еще по существу, так как с изданием нового циркрляра прежний утратил свою силу.

# КООПЭРАЦЫЯ

## Збыт яек.

„...Ён (расійскі коопэратар. С. Ч.) гандлюе цяпер паазіяцкаму, а для таго, каб умець быць гандляром: трэба гандляваць паэўропэйскаму“.

(Ў. Ленін. „Аб коопэрацыі“.)

Гандаль яйкамі ў Расіі ў даваенны час займаў віднае месца У 1913 г. было перавезена чыгункаю 4.854 мільёнаў штук, ці 17.250.000 пудоў яек. З іх 3.571.641.000 штук было вывезена за межы Расіі. Вартасьць вывезеных яек дасягала 90.645.691 руб. Сярод тавараў вывазу яйкі займалі дужа пачэснае месца, а іменна—чацьвертае, бо на першым месцы йшло збожжа, на другім—лясныя матэрыялы, на трэцім—лён, а пасьля льну йшлі яйкі.

Маленькія яйкі, здаецца, такі некаштоўны тавар, а якое важнае месца займалі ў гандлю!

У Расіі-ж ў гандлю яйкамі наша Беларусь займала далёка не апошняе месца. Шмат яек зьбіралася тут па вёсках каробачнікамі, здавалася гандляром-гуртаўнікам і йшло далей ці на продаж у вялікія гарады, ці за межы.

Беларусі пасьля вайны яшчэ і дагэтуль дужа цяжка аднавіць у поўнай меры сваю гаспадарку і сваё жывёлаводзтва, але курыныя стадкі ня толькі лёгка аднавіць, а можна значна і павялічыць ў параўнаньні з тым, што было да вайны. Аднака ўжо можна сказаць, што наша сялянства цяпер мае курэй ня менш, чым яно мела да вайны. А знача, яму трэба ўжо клапаціцца аб тым, як бы схадней і лепш збыць курыныя яйкі. Нашы сялянкі іх збываюць. Але як? Вязуць на рынак, дарогаю частку перадавяць, прададуць у горадзе танна і зноў чакаюць, пакуль назьбіраецца некалькі дзесяткаў, каб завезьці ў горад. Пры гэтым, пакуль сялянка зьбірае яйкі, яны некалькі тыдняў сохнуць, псуюцца і як тавар, становяцца дрэннымі. У лепшым выпадку сялянка нясе яйкі ў свой коопэратыў.

Здавалася-б, што калі сялянка аддасьць яйкі ў коопэратыў, дык тут ужо пачынаецца гандаль „паэўропэйскаму“. Не. І тут яйкі трымаюцца доўга, няўмела перахоўваюцца, псуюцца, а калі іх назьбіраецца шмат, вязуцца ў Саюз; пры гэтым, пакуль прывязуцца ў горад, дык траціна яек перадушыцца. Здараецца-ж усё гэта таму, што нашы вясковыя коопэратары ня ўмеюць хадзіць каля яек: ня ўмеюць арганізаваць скорае зьбіраньне яек, ня ўмеюць аддзяліць дрэнныя ад добрых ці перахоўваць і нарэшце ня ўмеюць укладваць у калёсы, каб привезьці іх ў горад.

Але мо' калі яйкі трапяць у Саюз коопэратываў, то будзе лепш? Не. Што рабіць з яйкамі і тут ніхто ня ведае. Адно толькі знаюць саюзныя коопэратары, што яйкі трэба як найхутчэй прадаць. А як і дзе прадаць, каб пры гэтым абараніць інтарэсы селяніна-куравода і гэтым палепшыць гадоўлю курей, а другое абараніць і інтарэсы спажыўца, ня даўшы яму дрэнных яек; але гэта наш коопэратыў мала цікавіць. Прадаюцца яйкі звычайна у коопэрацыйных крамках гораду. Але яйкі далёка ня першай сьвежасьці, часта падсохшыя, а то й псутыя, „чарнякі". Гаспадыня, купіўшы яйкі, траціну з іх выкідвае вон і пры гэтым лае коопэрацыю.

Вось такі гандаль і ёсьць гандаль „паазіяцкаму", аб якім казаў нам У. І. Ленін.

А між тым коопэрацыі добра вядомы лепшыя формы гандлю яйкамі—„эўрапэскія". Прышлося-б доўга тлумачыць, як гэта справа наладжана, напрыклад, у Даніі. Мушу каротка сказаць, што там гаспадар на курыных яйках шмат зарабляе. Дзякуючы гэтаму, ён ужо даўно палепшыў гатунак курэй, а самы зыск ад іх зьяўляецца значнай дапамогай у яго гаспрдарцы.

Тут трэба разумець, што адразу нашы сяляне ня возьмуцца за лепшы збыт яек, але варта пакідаць „азіяцкія" мэтоды гандлю хоць нашай коопэрацыі і ў першую чаргу Саюзам і таварыствам, якія гэтым гандлем займаюцца.

Мы добра ведаем, што ні адзін Саюз ня мае сьпэцыялістага—інструктара, які-б мог парадзіць, як трэба абходзіцца з яйкамі. А такі інструктар, хоць адзін на саюз, *павінен быць*. Гэта датычыць, як сельска-гаспадарчых саюзаў, таксама і спажывецкіх, калі апошнія займаюцца скупкай яек. Зразумела, што саюзу трымаць інструктара толькі для яйчарства было-б дорага, але выўчыць *аднаго з ужо працуючых інструктароў бязумоўна карысна*. Вось мы і радзілі-б адчыніць у Менску курсы па яйчарству (Белсельсаюзу і Белкоопсаюзу разам) і запатрабаваць па аднаму інструктару ад тых саюзаў коопэрацыі, якія займаюцца гандлем яек.

С. Чыжэўскі.

---

# Да выяўленьня крэдытных патрэб сялянскай гаспадаркі.

Дзеля ўзмацненьня і разьвіцьця сялянскай гаспадаркі ў 1923-24 г. заснована ў нас сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту. Працы гэтае сыстэмы далі ўжо ня мала карысьці нашай сялянскай гаспадарцы. Каля 4 міл. руб. кінута ўжо ў сельскаю гаспадарку Беларусі ў парадку сел.-гасп. пазычак. Пазычкамі пакуль што латалі дзіркі ў гаспадарцы: набываўся новы с.-г. інвэнтар, зьмяніўся стары конь, адбудавалася хата і г. д. Але ўсё гэта рабілася бяз усялякага ўлічэньня разьмеру агульных патрэб той ці іншай мясцовасьці і гаспадаркі. Хто быў больш сьвядомы, той і выкарыстаў гэты крэдыт. Сялянская гаспадарка здавальняла патрэбы крэдыту, як кажуць, „саматекам", без усялякага ўдзелу агронома.

Аднака, с.-г. крэдыт—гэта рэгулятар разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Кідаць яго неорганізавана ня варта, бо савецкае будаўніцтва, вымагае пляновага падыходу да кожнае галіны народнай гаспадаркі.

Дзеля сыстэмы с.-г. крэдыту патрэбна дасканала ведаць, якія запатрабаваньні к гэтай сыстэме можа прад'явіць сялянская гаспадарка. Трэба ведаць патрэбу сялянскай гаспадаркі ў капітале (у пазычках).

На жаль, маючы нават добрую с.-г. статыстыку мы пакуль што па ёй ня можам вылічыць патрэбы ў крэдыце. Напрыклад, па статыстыцы сёлетняга году значыцца, што 22,17 проц. гаспадарак ня маюць коняй, але ці значыць гэта, што ўсім гэтым гаспадаркам коні патрэбны? Зусім не. Можа нават палове гэтых гаспадарак коні і не патрэбны, бо ў іх зямлі мала і гэтыя коні не карысны. Агулам кажучы, гэта частка нашай экономічнай справы зусім ня выведана.

У прамысловасьці, у гандлю мы маем ужо пэўныя лічбы, якія сродкі яны вымагаюць ад Дзяржавы на бліжайшы час, а ў сельскай гаспадарцы гэтага яшчэ ня зроблена.

Без падліку крэдытных патрэб сялянскай гаспадаркі, нельга думаць аб карысным руху сродкаў па с.-г. крэдыту ў сялянскую гаспадарку і аб тым, што сыстэма с.-г. крэдыту адыграе ролю рэгулятара сельскай гаспадаркі ў бліжэйшы час.

Цяпер заведзена складаньне крэдытных плянаў на кожныя 3 м-цы і ў кожным крэдытовым т-ве, з абавязковым удзелам агронома. Але гэта не дае яшчэ пэўных вынікаў, бо пляны складаюцца без улічэньня мясцовых патрэб і мажлівасьцяй дзяржавы.

Трэба ўсё-ж нарэшце выявіць крэдытовыя патрэбы сельскай гаспадаркі хаця на бліжайшыя пяць год. Маючы такое вылічэньне можна прыцягнуць у сельскую гаспадарку і больш сродкаў.

Трэба с.-г. працаўнiком кожнага раёну разам з працоўнікамі крэдытовай коопэрацыі падыйсьці грунтоўна да выяўленьня крэдытовых патрэб сялянскай гаспадаркі. Варта было-б, каб аб мэтодах распрацоўкі гэтае тэмы адгукнуліся і самі мясцовыя працаўнікі.

**Е. Трахімаў.**

---

# Паштовая скрынка.

*К. Хабэнка.* „Гадоўля таматаў"—перадана ў газэту „Беларуская Вёска".

*Янка Г-кі.* „Занятыя папары"-- перадана ў газэту „Беларуская Вёска".

*Проф. П. Салаўёў.* „Асьцерагайцеся крупчакоў".—перадана ў газ. „Б.-В". На гэту тэму друкаваўся артыкул у № 2 „Плуга".

*Н. Міханоўская.* „Значэньне палявога травасеву" будзе зьмешчана ў № 6.

*М. Лайкоў.* „Новая шасьцёхпалёўка" будзе зьмешчана ў № 6.

*А. Караткевіч.* „Майскі папар" ня пойдзе. У наступых артыкулах спасылайцеся на вынікі дасьледчых станцый і практычныя прыклады лепшых гаспадароў свайго раёну.

*А. Левановіч.* (Вёска Беркава, Глускі раён). Напішэце аб коопэрацыйнай працы свайго раёну.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Пажары ў лесе.

Такія пажары ў лесе, якія бачым у гэту вясну, зьяўляюцца грамадзянскім ліхам. Яны вынікаюць, галоўным чынам, ад неасьцярогі з агнём, ад падпалу ці ад маланкі. Але ад чаго-б пажары ня вынікалі, яны заўсёды нясуць з сабой малюнак сьмерці й руйнаваньня.

Бязсьнежная зіма і сухая вясна гэтага году, загружанасьць лесу гальлём і іншымі астачамі значна дапамагаюць разьвіцьцю лясных пажараў, але яшчэ больш гэтаму дапамагае народная цемра.

Некаторыя сяляне лічаць, што пасьля пажару лепш расьце трава, застаецца больш сухастою, які танна ці зусім дарэмна можна будзе атрымаць, а ўрэшце будуць прагалы для пашы ці ральлі.

Гэтакі погляд на лес вельмі шкадлівы, а ў адносінах да Рэспублікі зьяўляецца злачынным. Паляпшэньне травы на вогнішчы калі і бывае, то толькі часова, бо ўраджайны верхні пласт глебы, якія складаецца з перагніўшай хвоі і апаўшых лісьцяў, выгараюць і глеба ад гэтага хутка пустошыцца; пры пажары апальваюцца і верхнія часткі карэньня дрэва. Далей дрэва слабее, сохне, і найчасьцей зусім засыхае, а пра ўсходы няма чаго і казаць.

Лясныя пажары, нават і ў тых выпадках, калі абгарэлы лес і ня ўсыхае, прыносяць вялікую страту, бо паменшаюць прырост на працягу некалькіх год. Другое, на дрэвы, аслабеўшыя ад пажару, накідваюцца розныя шкоднікі.

Калі страту, якую прыносяць лясныя пажары, пералічыць на грошы, то будзе вельмі вялікая сума. На Беларусі пры звычайным сярэднім лесе прырастае ў год каля $^1/_2$ куб. саж. на 1 дзесяціну. У аслабеўшым-жа ад пажару лесе прыросту часьцей ня будзе зусім, або ён зьменшыцца да $^1/_4$ звычайнага. Калі-ж да гэтага яшчэ дадаць гібель маладняку і паніжаную каштоўнасьць сухастою з перакладам на ўсю плошчу спаленага лесу,—то лічба будзе страшэнная. Каб растлумачыць гэта, я дам прыклад. Каштоўнасьць 1 дзес. засадкі лесу 15-20 рублей, цана штогодняга прыросту будзе 10-12 руб.; на страту ад пажару трэба аднесьці 8 руб.

У гэту вясну зьнішчана некалькі тысяч дзесяцін маладняку і пашкоджаны дзесяткі тысяч дзесяцін сярэднярослага лесу. Калі мы дзеля прыкладу возьмем 1 тысячу дзес. загінуўшага маладняку і 10 тысяч пашкоджанага дарослага лесу (а супраўдныя лічбы будуць большыя), то ад зьнішчэньня маладняку маем страты $1000 \times 15 = 1500$ руб. і ад 10 тысяч дзес. дарослага лесу маем страты $10.000 \times 8 = 80.000$ руб.; а ўсяго 95.000 руб. Сюды не прылічваем паніжаную каштоўнасьць сухастою, псаваньне лесуляснымі шкоднікамі, зьмяншэньне прыросту ў наступныя годы, зьнішчэньне засеваў і падросту ў пасьпеўшым лесе.

Страты ад пажараў у гэтым годзе будуць шмат большымі, чым паказаныя лічбы, бо штодзенныя тэлеграмы і данясеньні лясьнічых гавораць аб нябывалым пасьля 1920 г. пашырэньні лясных пажараў. Праўдзівую лічбу ўсёй страты ад пажараў можна будзе падлічыць хіба толькі ўвосень.

Насельніцтва Беларусі, маючы столькі карысьці ад лесу, як дарэмная паша скаціны, зьбіраньне грыбоў і ягад, штогодныя мільённыя заробкі ў лесе пры яго распрацоўцы, пэўна не ўяляе сабе, што дапамагаючы разьвіцьцю лясных пажараў, яно павялічвае гэтым свае падаткі і абясцэньвае нашы прыродныя багацьці.

Зусім ня гэтак адносіцца да сваіх лясоў насельніцтва Захаду. Напрыклад, у Нямеччыне курэньне цыгарак у хвойным лесе лічыцца злачынствам, за што вінаватага штрафуюць, а за непарушэньнем законаў аб ахове лесу глядзіць ня толькі лясная варта і паліцыя, але і ўсё насельніцтва.

**І. Фэдарака.**

# Што чытаць селяніну.

**(Бібліографія).**

*И. П. Скаморохов.*—**Что должен знать крестьянин о лесе.** стр. 69 Изд. Наркомзема БССР 1925 года.

Невялічкая кніжка з 7 выразна пастаўленых тэм.

1. Лясы—наша багацьце.
2. Лес, як ахоўнік вады, поля, здароўя чалавека.
3. Што шкодзіла і нішчыла нашы лясы („панская нажыва". пажары, парубкі).
4. Як гаспадарыць у лесе.
5. Чаму лясы ўзяла Дзяржава.
6. Лясы мясцовага значэньня.
7. Як селяніну атрымаць лес на будоўлю і дровы.

Зачэпленыя тэмы цікавы ня толькі дзеля селяніна, але і працаўніку хаты-чытальні, с.-г. гуртку.

Мова папулярная і зразумела (асабліва ў пяці першых тэмах). Шмат статыстычнага і выключна *мясцовага* (беларускага) матэрыялу і добрых прыкладаў. Аўтар часта вельмі спрытна карыстаецца добрымі параўнаньнямі. („Абарот рубкі ў лесе—гэта севазварот у полі"), або агульныя разважаньні ўзмацняе кароткімі формуламі („Хто хоча быць здоровым—няхай ахоўвае лес. Стар. 15).

Вельмі каштоўна, што аўтар увязвае свае гутаркі з галоўнымі законамі аб лесе. У заключэньні аўтар азначае парадак кіраваньня лясною гаспадаркаю. Кніга напраўду можа быць залічана ў „бібліотэку беларускага селяніна". Гэта пакуль што *найлепшы прыклад дзеля пісаньня папулярнай літаратуры.* Нажаль кніжка напісана парасійску.

**С. Т.**

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Аб культурна-паказальных гаспадарках.

Наркомземам зацьверджана „Палажэньне аб культурна-паказальных гаспадарках у БССР.“*)

Патрэба ў гэтым палажэньні вымагаецца 1) неабходнасьцю зрабіць падлік і скарыстаць шматгадовы сялянскі досьлед і дасягненьні і 2) абараніць запраўды культурныя гаспадаркі ад абрэзкі зямлі разам з кулацкімі гаспадаркамі.

Наркомзем Беларусі ўзяў цьвёрды кірунак перабудовы сельскае гаспадаркі на больш даходную. Але вёска і сама гэту перабудову робіць. Аб гэтым сьведчыць пераход да шматпольля, землябудаўніцтва і інш.

Цяпер паглядзім, што зьяўлялася падмуркам у працы агронома да гэтага часу. У большай частцы гэта былі адны—тэорэтычныя веды, бо сталай беларускай агрономіі да Рэволюцыі ня было. Яна толькі што нараджаецца. Пэўных вестак і практычных прыкладаў сельскагаспадарчай працы таксама няма, як няма і поўных прац дасьледчых станцый, якія давалі-б адказы на запатрабаваньні сялянскае гаспадаркі. На чым-жа павінен грунтавацца агроном у сваёй працы. Бязумоўна, на „досьледах“ і выніках больш перадавога і культурнага сялянства. Саматужныя шуканьні селяніна далі ўжо шмат вынікаў. Вядома, што сельская гаспадарка Беларусі лічыцца найбольш працаёмкай паводле сумежных рэспублік СССР.

А між тым да гэтага часу агроном мала карыстаўся вынікамі селяніна-культурніка і ня высоўваў яго, як прыклад, другім (селяніна-культурніка часта мяшалі з „кулаком“). Пункт 1 „Палажэньня“ гаворыць аб выкарыстаньні досьледаў і дасягненьняў сялян-культурнікаў у працы пры перабудове сельскай гаспадаркі.

Палажэньне вызначае правы і абавязкі культурных гаспадарак. Трэба толькі пажадаць, каб мясцовыя працаўнікі аднесьліся сур‘ёзна да справы рэгістрацыі культурнікаў.

Вучастковым агрономам трэба лічыць за абавязак пры рэгістрацыі рабіць поўнае апісаньне гаспадаркі з усімі лічбамі дасягненьняў.**)

**М. Лайкоў.**

---

*) Рэд. (гл. афіцыйны аддзел).

**) Вельмі пажадана апісаньні і дасягненьні найбольш культурных гаспадарак дасылаць часопісі „Плуг“ дзеля надрукаваньня. (*Рэд.*).

# Парады агронома.

ПЫТАНЬНЕ 3. У нашай вёсцы летась прыблізна ў канцы траўня ці ў пачатку чэрвеня многа кароў захварэла на крываўку. Парадзьце, што трэба зрабіць каб гэта ня здарылася сёлета.

**Міхась Гусак.**

АДКАЗ. Крываўка часта здараецца ў лясістых ваколіцах у часе, калі красуюць сасновыя і яловыя дрэвы, і паміж якімі ці блізка якіх пасецца скаціна. У той час ападае з дрэва смалістая луска, якая выклікае затрыманьне калу і мачы да крывавага занядужаньня. У такім выпадку для барацьбы з крываўкаю першым чынам трэба кінуць пашу скаціны ў лесе і каля лесу, і карміць занядужаўшую жывёлу паслабным зялёным кормам ці буракамі, а ў сярэдзіну жывёле даць па 16 лотаў горкай ангельскай солі. Гэту соль трэба распусьціць у вадзе і даваць разам з пойлам, альбо ўліваць у горла па 3 бутэлькі.

ПЫТАНЬНЕ 4. У гэтым годзе сухая вясна, якая можа перашкодзіць пасадцы капуснай расады. Што трэба рабіць і як яе садзіць, каб яна прынялася.

**Мацей Чарапок.**

АДКАЗ. Калі прыдзецца садзіць капусную расаду ў сухую пагоду, то трэба рабіць гэта вельмі старанна. У дзірку, зробленую для расады, дручком уперад уліваць вады і, калі яна ўвойдзе ў зямлю, садзіць расаду, гледзячы, каб карэньчыкі не падгіналіся і далей акуратна прыціснуць іх вільготнай зямлёй, а па верху навакол расьліны пакідаць крыху зялёнай травы ці якога-небудзь лісьця. Гэта спачатку прыценіць поле, чаму расада лепей прымаецца. Калі засуха стаіць і пасьля пасадкі, то расаду патрэбна два разы ў дзень (раніцою і ўвечары) паліваць. Паліваць трэба датуль, пакуль яна ня прымецца.

ПЫТАНЬНЕ 5. Я першы раз сёлета пасадзіў кармовыя буракі; што з імі трэба далей рабіць, каб сабраць добры ўраджай.

**Каранеўскі.**

АДКАЗ. Буракі вельмі ня любяць пустазельля. Калі іх спачатку не апалоць, то да канца будуць расьці вельмі дрэнна. Дзеля гэтага, як толькі буракі ўзойдуць, неабходна іх прапалоць і зварушыць зямлю, каб яна ня высыхла. Калі буракі будуць мець 5-6 лісткоў і таўшчыню гусінага пяра, як мага хутчэй патрэбна іх прарваць, маючы на ўвазе, што чым раней іх прарваць, тым большы будзе ўраджай. У кожнай кучцы паўсходзіўшых буракоў пакідаць толькі адзін найлепшы бурак, а іншыя вырываць і перасаджваць на тое месца, дзе буракі ня ўзышлі ці былі папсаваны шкоднікамі. Буракі патрэбна прарываць вельмі асьцярожна, каб ня выцягнуць і тую расьліну, яаую мы прызначылі пакінуць на месцы. Садзіць трэба так, як і капусту, гэтак-жа і даглядаць пасьля пасадкі.

**Ўл. Даведчык.**

# Культурныя мерапрыемствы вёскі Засялечы.

*(Асіповіцкі раён, Бабруйская акруга).*

Вёска Засялеча да 1923 году жыла і вяла сваю гаспадарку падзедаўскі. У вёсцы ўсяго 37 гаспадароў. На кожную гаспадарку ў сярэднім прыпадае пахаці каля 6 дзесяцін. Зямля падзолістая і знаходзіцца паміж балот; сенажаць балотная, кепская.

Першы раз в. Засялеча ўбачыла агронома ў 1923 годзе. Мажлівыя паляпшэньні ў сельскай гаспадарцы, з якімі азнаёміў заселячан агроном, іх вельмі зацікавілі. Пачаліся паляпшэньні з ачысткі зімовага насеньня ўвосень 1923 г. Вясною 1924 г. заселячане ўжо залажылі паказальныя вучасткі з сэрадэляй, лубінам, капустай і г. д.

Вынікі працы на паказальных вучастках і прэміраваньне лепшых селянскіх экспонатаў на раённай с.-г. выстаўцы яшчэ больш узмацнілі веру ў агронома. З гэтага часу ўжо пачынаецца сур'ёзная агрономічная праца ў вёсцы Засялечы.

У 1924 годзе вёска пераходзіць да пяціпольнага севазвароту з 10-ці годнім чаргаваньнем засеваў (пяціпалёука проф. Дыярэнкі*). К зіме 1924-25 г. Заселячане ўцяплілі хлявы; вясною гэтага году яны першыя ачысьцілі і пратравілі насеньне. У гэту вясну пры новым севазвароце трэба было засеяць па зімовым жыце 16 дзес. канюшыны 6 пуд. насеньня вёска атрымала, як прэмію за севазварот, а 10 пуд. сяляне купілі ў Асіповіцкім с.-г. таварыстве за свой кошт. Канюшына засеяна рана, у першых лічбах красавіка, да гэтага часу яна ўжо ўзышла і добра выглядае.

Вёска мае і пяскі, якія раней засяваліся адзін раз праз некалькі год. Цяпэр-жа пескавое поле разьбіта на тры часткі. Адна засяваецца лубінам на насеньне, другая лубінзм на ўгнаеньне, а трэцяя жытам. Пасьля насеннага лубіну поле засяваецца лубін на ўгнаеньне, а па ім ужо йдзе жыта. Пасьля жыта зноў лубін на насеньне і г. д.

У гэтым годзе пасеяна толькі 50 пуд. лубіну, які куплен таксама ў с.-г. таварыстве. Усяго трэба было пуд. 300, але не хапіла сродкаў.

Апрача таго, заселячане купілі 1 кілёграм варшаўскае капусты і насеньне падзелена паміж усімі гаспадарамі.

У в. Засялечы заложана і мэліорацыйнае таварыства. Пасьля саўбы сяляне вырашылі адразу ўзяцца за капаньне канавы на сваім балоце.

Зьбіраліся Засялечане купіць яшчэ завадзкога быка, але на гэта таксама не хапіла сродкаў. Грошы былі патрачаны на капусту, лубін і канюшыну, за якую выплачана 25 проц. кошту (Пуд канюшыны каштаваў 27 руб.).

Так пачынае сваё культурнае жыцьцё вёска Засялеча, трымаючы самую цесную сувязь з агрономам і праводзячы ўсю сваю працу пад яго кіраўніцтвам.

Райагроном **П. Сяргейчык.**

---

*) I—папар. II—жыта. III—$^1/_2$ канюшына, $^1/_2$ бульба. IV—$^1/_2$ канюшына, $^1/_2$ бульба. V—ярына.

# Як калёнія Напраснаўка з'арганізавала машыннае таварыства.

*(Аршанская акруга).*

Вёска Напраснаўка—старая жыдоўская колёнія. 35 двароў яе раней страцілі сваю зямлю, а цяпер пасьля рэволюцыі атрымалі зноў.

Першы час жыхары гэтае вёскі дзеля малацьбы бралі малатарні на пракат у суседніх вёсках і за гэта плацілі дорага і адразу ў часе малацьбы. Недахват будынкаў не дазваляў замяніць „чужыя“ машыны цэпам.

Большасьць жыхарства гэтае вёскі новыя земляробы, бо ў царскія часы не маглі займацца вытворчай працай земляроба, і вандравалі па вёсках, купляючы яйкі, анучы, шчаціну, шкураціну і г. д.

Вось усе гэта і прымусіла іх задумацца над тым, каб „цяжкую працу чалавека пераложыць на жалезныя плечы машыны“.

Ім на падмогу й прышло таварыства. Трынаццаць больш адважных гаспадароў, падлічыўшы, што ў тры гады малацьбы за пракат машыны трэба заплаціць столькі, што магчыма купіць малатарню, прывод і арфу, пастанавілі ў 1923 годзе з'арганізаваць машыннае таварыства. Сабралі паі і атрымалі ў крэдыт памяненыя машыны.

Цяпер таварыства мае яшчэ сартоўку і пружыноўку (апошнюю атрымала на акруговай выстаўцы, як прэмію першай ступені за арганізацыю таварыства, сартаваньне насеньня і інш. Ў дадатак да гэтага цяпер затрабавана яшчэ крэдыту ў Аршанскім с.-г. банку дзеля набыцьця ўборачных, сартавальных і інш. машын і прылад.

Якая-ж карысьць сябром гэтага машыннага таварыства? А карысьць тая, што яны, ня маючы лішніх сродкаў, дзякуючы гэтай арганізацыі маюць свае ўласныя машыны, якія ўсіх абслуговаюць. Гэта можна зразумець з такога рахунку.

Малатарня, прывод, арфа і сартоўка каштавалі 350 руб. Прылічыўшы яшчэ 50 руб. на рапараваньне машын у працягу 10 год іх працы (па 50 дзён на год) выходзіць, што дзень працы гэтых машын абойдзецца (350+50 р.) : (500 дзён)=80 кап. Пры гэтым ня лічыцца праца сартоўкі, на якой адсартавана дарэмна амаль 1000 пуд. збожжа (пшаніцы, ячменю, аўса і жыта). Касілка разам з рапарацыяй на працягу 10 год будзе каштаваць 200 руб. Працаваць-жа яна можа 10 год, косячы кожны год 60 дзесяцін (30 дзесяцін пры двох укосах). Значыць, скасіць дзесяціну будзе каштаваць 35—40 кап. Праца жаткі па такому-ж разліку абыйдзецца ўсяго 30 кап. з дзесяціны. Праўда, тут трэба заўважыць, што выдаткі на куплю машын павінны быць знойдзены ня ў дзесяць, а ў тры гады, акром таго, патрэбны яшчэ сродкі на будынкі дзеля хаваньня машын на штрахоўку, утрыманьне загадчыка таварыства і інш.

Але ўсё гэта ня так страшна, бо толькі ў першыя 3 гады прыходзіцца плаціць за малацьбу 3 рублі ў дзень, (за ўсе машыны), а за касьбу 1 р. 50 к. і жніва 1 руб. 24 кап. з дзесяціны. Пасьля першых трох год уся плата зьмяншаецца да 50 кап. у дзень за малацьбу і да 25 кап. за касьбу ці жніва з дзесяціны.

Такім чынам, карысьць машыннага таварыства відавочная. Злучайцеся, сяляне, у машынныя таварыствы, каб хутчэй пераложыць „цяжкую працу чалавека на жалезныя плечы машыны“.

Б. Гурэвіч.

# Мэліорацыя ў вёсцы.

*(В. в. Старычы і Даўговічы).*

Мэліорацыя на Беларусі павінна адыграць значную ролю, бо мы маем больш міліёна дзесяцін балотнай зямлі, якую шляхам мэліорацыі можна давесьці да с.-г. скарыстаньня. Вагромністыя балотныя плошчы, вядома, асушваюцца і будуць асушвацца ў першую чаргу Дзяржавай. Невялікія-ж балоты, якія на Беларусі сустракаюцца даволі часта, могуць быць асушаны і сіламі сялянства ці яго аб'яднаньняў. (Гаспадарчае насельніцтва часта само бярэцца за гэтыя справы). Тут я і хочу ўспомніць аб аднэй мэліорацыйнай працы, якая была споўнена двумя вёскамі. Праца маленькая, а выклікала вялікую зацікаўленасьць.

Гэта было ў засушлівы 1921 год. Сяляне двух суседніх вёсак Старычы і Даўговічы (Расьнянскага раёну), якія былі абкружаны балотамі, дзівіліся, што іх рэчка Волчас, якая раней была непралазнай, зусім высахла. Зьявілася думка, ці ня добра было ў гэтым годзе скарыстаць сухмень і выкапаць канаву, каб такім чынам асушыць балотныя сенажаці. Справа была перад касьбой. Сабраліся на сход і пастанавілі выкапаць канаву каля рэчкі на працягу пяці вёрст. Былі абраны кіраўнікі для кіраваньня падрыхтоўчай працай, бо пастановы былі зроблены ў кожнай вёсцы. Тры дні на працягу пяці вёрст працавала каля 200 чалавек: кожны двор на асобным вучастку, адпаведна сваёй долі зямлі на двор. Канава была выкапана ў 1 ар. глыбіні і $1^1/_2$ ар. шырыні. У выніку сваёй працы насельніцтва адваявала ў прыроды больш 100 дзес. добрай сенажаці.

Якая была радасьць, калі праца скончылася. Канава вілася доўгай зьмяёй на працягу 5 вёрст. А далей за 3-4 гады і трава зусім зьмянілася. Замест асакі, хвашчу і пушыцы пачала расьці мятліца, лугавая канюшына, пахучы каласок, грабеньнік і іншыя нізавыя лугавыя травы. Разам з гэтым і ўкос павялічыўся больш чым на 100 пуд. з дзесяціны. Раней дзесяціна давала 50-60 пуд. вельмі кепскага асаковага сена, а пасьля асушкі кожная дзесяціна дае 150-160 пуд. Сенажаць, як кажуць, з нягоднае стала заліўной.

Асушка рэчкі панізіла і грунтовыя воды больш тым на $^1/_2$ арш., што мела добры ўплыў і на бліжэйшае нізкае поле, дзе часта вымакалі зімовыя засевы.

Нарэшце ўраджай яравога збожжа таксама павялічыўся амаль удвое.

На гэтым прыкладзе сяляне значнага раёну упэўніліся ў вялікім значэньні асушкі глебы, калі яна вельмі вільготная.

Цяпер пры організацыі мэліорацыйнага крэдыту праца па асушэньні пойдзе наперад. Трэба закладаць мэліорацыйныя таварыствы. Трэба асушаць мокрыя сенажаці і балоты. У гэтай галіне непачаты кут працы. Гэта чарговая праца на вёсцы.

**В. Кустакоў.**



# С.-Г. ХРОНІКА

## Раённая выстаўка жывёлагадоўлі.

(*Мяст. Самахвалавічы Менскае акругі*).

26 траўня г.г. ў мяст. Самахвалавічах адбылася раённая выстаўка па жывёлагадоўлі. Было паказана—

Коняй 190 штук (галоўным чынам жарабкі з крывёю Ардэна, Першэрона; менш маладняку).

Буйной рагатай скаціны 170 штук (галоўным чынам чырвона-беларуская скаціна).

Сьвіньней 4 сям'і.

Курэй 1 сям'я.

Атрымалі прэміі.
За коні 30 гаспадарак.
За буйн. раг. скаціну 38 гаспадарак.
За сьвіньні 2 гаспадаркі
За курэй 1 „

Ганаровыя дыплёмы атрымалі 14 сялянскіх гаспадарак.

Прэміі скаладаліся з сячкарняў . . . . 1
пружыновак . . . 1
плугоў . . . . 28
асыпнікаў . . . . 17
малочн. прылад (даёнка, літр, цадзілка, скрабло) 11

На выстаўцы былі коні (жарабкі), якія ацэньваліся па 1.500 руб.

Праз увесь час выстаўкі вяліся агрономічныя мітынгі. Прысутных налічвалася звыш 1.500 чалавек.

## Іпадром у Менску.

23 траўня ў Менску на Кашарскім пляцу адчынены іпадром імя тав. Будзёнага. На адчыненьні паказваліся рысістыя коні дзяржаўнага заводу „Велень“ і скакалі лепшыя коні (40 штук) N дывізіі.

Найбольшая шпаркасьць на адну вярсту—1 мін. 28 сек.; на паўтары вярсты—2 мін. 8 сек.

Іпадром у справе гадоўлі коняй зьяўляецца жывой пропагандай сярод насельніцтва; ён, як люстра, адсьвечвае лепшыя дасягненьні ў гэтай галне.

Спрабаваньне коняй будзе спаўняцца на шпаркасьць бегу, язду вярхом і перавозку цяжараў. (Тры галіны гадоўлі коняй).

## Закладаньне новых пладовых школак.

У сучасны момант праца па закладаньню пладовых школак распачата амаль што ва ўсіх акругах.

Ужо заклалі пладовыя школкі:

| АКРУГІ | Месца пладовай школкі | Плошча | Высаджана дрэў |
|---|---|---|---|
| Мазырская | Колх. „Седзельнікі“ ў 7 в. ад Мазыра | 7-8 дзес. | 15.000 дзічак |
| Слуцкая | Гор. Слуцак | 3½ „ | 10.000 „ |
| Магілеўская | ½ вяр. ад Магілева | 7-8 „ | 5.000 „ |

Белсельбанк выдае ўсім коопэрацыйным і іншым с.-г. аб'яднаньням пазычкі на закладку пладовых школак тэрмінам на 3 гады. Тэрмін гэты будзе прадоўжаны да 5 год. За 3 месяцы г. г. ўжо выдана пазычак на 9000 руб.

Усім організацыям, жадаючым атрымаць доўгатэрміновую пазычку на закладку школак, трэба падаваць адпаведныя заявы мясцовым упоўнаважаным Белсельбанку праз Акрземаддзелы.

## Пладовая школа племхозу імя Калініна.

*(Быўш. Ігнатычы, Менскай акругі).*

Пад школкай знаходзіцца 7 дзесяцін (раней было 21). Штогодна школка будзе даваць 20.000 трохгадовых прышчэп. Сарты пераважна антонаўка белая, камянічка; баравінка, наліўное белае і чырвонае.

За вясну бягучага году прадана 10.000 прышчэп па цане ад 25 да 50 кап. штука. Куплялі, галоўным чынам, сяляне бліжэйшых вёсак, а гэтак-жа сяляне Бабруйскай, Барысаўскай і Аршанскай акругі, перасылаючы прышчэпы цягніком.

Большасьць сялян купляла па 20-30 прышчэп.

## Засевы на 15 траўня 1925 году.

*(Весткі ЦСК, ацэнка да 5).*

| АКРУГА | На 15 траўня зімов. засевы | | На 15 траўня травы | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Жыта | Пшаніца | Канюшына | Сухад. сенаж. | Іншыя |
| Полацкая | 2,4 | 2,3 | 2,8 | 2,2 | 2,6 |
| Віцебская | 2,6 | 2,4 | 2,6 | 2,0 | 2,2 |
| Барысаўская | 2,7 | 2,4 | 2,7 | 2,2 | 2,4 |
| Аршанская | 3,0 | 2,5 | 2,8 | 2,0 | 2,3 |
| Менская | 2,9 | 2,8 | 3,1 | 2,2 | 2,5 |
| Магілеўская | 2,6 | 2,5 | 2,4 | 1,9 | 2,0 |
| Калінінская | 2,8 | 2,5 | 1,9 | 1,5 | 2,2 |
| Бабруйская | 2,6 | 2,4 | 2,4 | 1,6 | 1,7 |
| Слуцкая | 2,9 | 2,8 | 2,6 | 1,8 | 2,0 |
| Мазырская | 2,5 | 2,3 | 2,0 | 1,3 | 1,6 |
| Па Бел. на 15 траўня | 2,70 | 2,57 | 2,5 | 1,9 | 2,2 |
| Было: на 1 траўня | 2,91 | 2,74 | 2,6 | 1,9 | 2,1 |
| Было: на 15 красав. | 2,6 | 2,5 | 2,3 | 2,1 | — |

# Офіцыйны аддзел

Рэзолюцыя: „Па сумеснай нарадзе з загадчыкамі Акр. ЗА і ўзгадненьні з Прэзыдыумам ЭКОСО, з папраўкамі Прэзыдыума зацьвярджаецца“. 13 мая 1925 г.
Нам. Наркомземляробства
БССР Э. Русецкі

## Палажэньне аб культурна-паказальных гаспадарках БССР.

*(Выдаецца на падставе рэзолюцыі ЦВКБ ад 7-га лютага 1925 г).*

1. Каб як найхутчэй пасунуць уперад перабудову сялянскае гаспадаркі на новы, больш рацыянальны шлях разьвіцьця, неабходна ў першую чаргу выкарыстаць дасягненьні і вопыт больш перадавых культурных гаспадароў, якія практычна ўжываюць у сваіх гаспадарках новыя агрономічныя мерапрыемствы і могуць зьяўляцца паказальнымі дзеля акружаючых гаспадарак. Дзеля гэтай мэты ва ўсіх акругах БССР неабходна зрабіць рэгістрацыю культурна-паказальных гаспадарак і перагледзіць сьпіс раней зарэгістраваных.

2. Культурна-паказальныя гаспадаркі, як індывідуальныя, так і колектыўныя і прысёлкавыя (цэлыя прысёлкі) падзяляюцца на дзьве катэгорыі, прымаючы пад увагу паўнату і ступень культурнасьці й інтэнсыўнасьці гаспадаркі, а таксама і той уплыў, які робіць гаспадарка на ваколічнае насельніцтва.

3. Да першай катэгорыі культурных гаспадарак адносяцца тыя гаспадаркі, якія маюць паказальнымі ўсе галіны гаспадаркі, а іменна:

а) інтэнсыўны жывёлаводны напрамак гаспадаркі, з правіловым утрыманьнем, харчаваньнем і выкарыстоўваньнем продуктаў жывёлаводзтва (сухія, цёплыя, сьветлыя скотныя двары; харчаваньне па норме, падкармліваньне жывёлы летам, правіловы адкорм сьвіней і гэтак далей),

б) існуючы ня менш трох год, дапасованы да мясцовых натуральна-экономічных умоў, шматпалёвы севазварот, з правіловай апрацоўкай і ўгнаеньнем глебы і доглядам за культурамі,

в) палепшаныя машыны і прылады,

г) пры наліччы ў гаспадарцы саду й гароду—правіловы догляд за садам і гародам,

д) пры наліччы натуральных сенажацяй і балот—палепшаньне і догляд за сенажацямі, асушка й скарыстоўваньне балот.

4. Да другой катэгорыі адносяцца тыя гаспадаркі якія поўнасьцю не перашлі яшчэ да сталых культурных форм гаспадараньня, але маюць адну ці дзьве паказальных галіны, або пачалі практычна выконваць плян перабудовы гаспадаркі, распрацованы мясцовым агрономам.

5. Культурна-паказальныя гаспадаркі карыстаюцца наступнымі правамі:

а) гаспадаркі першай катэгорыі, хаця ад абрэзкі поўнасьцю не аслабаняюцца, але, па пастанове Акр. ЗА, захоўваюць павышаную норму, якая не парушае існуючага шмтпалёвага севазвароту, адпаведаючага сучаснаму складу гаспадаркі. Зьмена меж гэткіх гаспадарках пры землябудаўніцтве можа быць зроблена толькі па згодзе з гаспадаром і агрономічнай організацыяй,

б) гаспадаркі другой катэгорыі пры абрэзцы іх зямельнае плошчы, атрымліваюць павышаную норму, адпавядаючую напрамку гаспадаркі, але ня звыш, як у паўтары разы.

*Увага*: Як выключэньне, за гаспадаркамі асабліва высокай культурнасьці па пастанове Прэзыдыумаў Акрвыканкомаў, зацьверджаным НКЗБ, можа быць захована фактычнае землякарыстаньне.

в) гаспадаркі абедзьвюх катэгорый карыстаюцца машынамі і прыладамі пракатных пунктаў у першую чаргу,

г) культурныя гаспадаркі маюць права на атрыманьне пачэсных дыплёмаў, матэрыяльных прэмій на ўсялякіх сел.-гасп. выстаўках, конкурсах і ў парадку агульнага прэміраваньня насельніцтва.

6. Абавязкі культурна-паказальных гаспадарак:

а) павінны весьці простыя запісы і падлік дасягненьняў розных прыёмаў гаспадараньня;

б) на падставе запісаў павінны даваць матэрыялы і магчымасьць рабіць апісаньня вучастковаму агронаму і іншым прадстаўнікам агрономічнай організацыі, аб тым, што і як робіцца ў гаспадарцы і якія маюцца дасягненьні;

в) даюць пісоўны абавязак агрономічнай організацыі ў тым, што яны і на далейшы час будуць весьці гаспадарку, ня ніжэй сучаснага стану культурнасьці і закладваць досьледы новых прыёмаў пад кіраўніцтвам і з матэрыяльнай (у гэтым апошнім выпадку) дапамогай вучастковага агронома і акруговай організацыі;

г) на працягу ня больш 5 год абавязаны падняць на належную вышыню культурнасьці ўсе галіны гаспадаркі, якія ў момант рэгістрацыі знаходзіліся ў някультурным становішчы.

7. Падлік культурных гаспадарак і рэгістрацыю іх выконывае Акр. ЗА.

8. Парадак рэгістрацыі культурных гаспадарак складаецца з наступнага: вучастковы агроном робіць падлік існуючых у раёне культурных гаспадарак і, пасьля падачы землякарыстацелем заявы аб залічэньні гаспадаркі ў лік культурных, робіць апісаньне гаспадаркі і даводзіць да ведама Райвыканкома і Акр. ЗА.

Не пазьней аднаго месяца, (ад моманту падачы заявы), на месца для паверкі апісаньня агронома выяжджае спэцыяльная комісія з трох асоб: прадстаўнікоў агрономічнай організацыі, Райвыканкому і Сельрады. Комісія складае паверачны акт і зараз-жа накіроўвае яго ў Акр. ЗА, дзе акт, на падставе дакладу прадстаўніка агрономічнай організацыі, разглядаецца і зацьвярджваецца ў тыднёвы (з часу атрыманьня) тэрмін.

Пасьля зацьверджаньня акту абсьледаваньня ў Акр. ЗА, апошнім даецца землякарыстацелю пасьведчаньне з адзнакай катэгорыі і з пералічэньнем усіх правоў і абавязкаў, а ад землякарыстацеля бярэцца пісоўны абавязак весьці гаспадарку культурным спосабам і на далейшы час. Здымак акту накіроўваецца ў НКЗБ у Кіраўніцтва Землябудаўніцтва і Мэліорацыі.

9. Падлік усіх культурна-паказальных гаспадарак і перагляд раней зарэгістраваных неабходна выканаць за летні пэрыод 1925 г. і да гадавое справаздачы дадаць цьвёрды сьпіс культурных гаспадарак акругі; а на далейшы час аб усялякіх зьменах штогодна паведамляць НКЗБ.

**Выданьне Наркомзема** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русэцкі.* *А. Смоліч.* *Сьц. Тупяневіч.*